● выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

● кошт 3000 рублёў

8 верасня 1998 г. аўторак, № 176 (23527)






# ЗВЯЗДА

## БЕЛАРУСЬ З'ЯЎЛЯЕЦЦА ПРЫХІЛЬНІЦАЙ ПАЛІТЫКІ ЮНЕСКО

Са словамі ўдзячнасці за падтрымку Беларусі з боку ЮНЕСКО ў ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы, а таксама ў галіне адукацыі і культуры звярнуўся прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка да генеральнага дырэктара гэтай буйнейшай міжнароднай арганізацыі ў час іх сустрэчы 7 верасня. Кіраўнік нашай дзяржавы выказаў надзею, што ЮНЕСКО не пакіне без увагі меры, якія цяпер прымаюцца ў нашай рэспубліцы па буйнамаштабнаму рэфарміраванню агульнаадукацыйнай школы і захаванню нацыянальнай культуры.

Аляксандр Лукашэнка заявіў, што наша краіна з'яўляецца прыхільніцай палітыкі, якую праводзіць ЮНЕСКО. Ён асабліва адзначыў той факт, што гэта міжнародная арганізацыя ў аснову сваёй дзейнасці ў абароне дэмакратыі і правоў чалавека ставіць захаванне міру на Зямлі. Паводле слоў прэзідэнта, Беларусь мае такі ж пункт гледжання ў гэтым пытанні, таму наша рэспубліка заўсёды будзе падтрымліваць ЮНЕСКО.



Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў вялікае значэнне гэтай арганізацыі, якая стала сусветным інтэлектуальным форумам. Ён падзякаваў Федэрыку Маёру за тое, што на пасадзе генеральнага дырэктара ЮНЕСКО ён імкнецца захаваць арганізацыю менавіта ў такой якасці.

У слове ў адказ Федэрыка Маёр выказаў удзячнасць прэзідэнту за сардэчную гасціннасць, з якой яго сустракаюць на беларускай зямлі ўжо другі раз. Ён адзначыў, што напярэдадні трэцяга тысячагоддзя і новага стагоддзя Беларусь, як і многія іншыя дзяржавы, цяпер адчувае шэраг праблем. Разам з тым генеральны дырэктар выказаў захапленне намаганнямі нашай краіны, накіраванымі на міжнароднае супрацоўніцтва, а таксама на выкананне абавязацельстваў, узятых Беларуссю ў ваеннай галіне і іншых сферах, дзе пытанні бяспекі і захавання міру стаяць асабліва востра.

**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**

## ПАДПІСАНЫ МЕМАРАНДУМ АБ СУПРАЦОЎНІЦТВЕ ПАМІЖ БЕЛАРУССЮ І ЮНЕСКО

**Беларусь з вялікай павагай ставіцца да ЮНЕСКО і яе кіраўніцтва і з вялікай адказнасцю — да сваіх абавязкаў і абавязацельстваў перад гэтай арганізацыяй.**

Аб гэтым заявіў прэм'ер-міністр Сяргей Лінг у час сустрэчы з Генеральным дырэктарам ЮНЕСКО Федэрыка Маёрам, які знаходзіцца ў нашай краіне з афіцыйным візітам. Яна адбылася раніцай 7 верасня.

Сяргей Лінг адзначыў, што Рэспубліка Беларусь стараецца рабіць усё магчымае, каб яе ўклад у дзейнасць ЮНЕСКО быў даволі адчувальны, і запэўніў, што гэта лінія будзе працягвацца і ў далейшым. Ён таксама выказаў надзею, што цяперашні візіт Федэрыка Маёра ў рэспубліку надасць новы імпульс узамаадносінам паміж Беларуссю і ЮНЕСКО.

Падзякаваўшы прэм'ер-міністру за цёплы прыём, які яму аказаны на беларускай зямлі, Федэрыка Маёр выказаў удзячнасць за павагу да ЮНЕСКО і асабіста да яго персоны. Ён падкрэсліў, што адносіны Беларусі з ЮНЕСКО развіваюцца вельмі добра і прадукцыйна, а дзейнасць прадстаўніцтва нашай краіны ў гэтай міжнароднай арганізацыі з'яўляецца вельмі актыўнай.

Вынікам сустрэчы Сяргея Лінга і Федэрыка Маёра стала падпісанне Мемарандума аб супрацоўніцтве паміж Рэспублікай Беларусь і ЮНЕСКО.

**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ, БЕЛТА.**

## ЗАЎТРА БУДЗЕ ЛЕПШ, ЧЫМ СЁННЯ?..

### Таргі на Маскоўскай МВБ «заглохлі» пры каціроўцы 50 рублёў за долар

З якім задавальненнем многія расіяне адматалі б назад стужку гісторыі з пачатку фінансавага крызісу. Хаця б да таго часу, калі гранічная мяжа хістання рубля чырванела лічбай 9,5 рубля за долар. Усяго тры тыдні прайшло, а якія ўражальныя змены. Вымушаная дэвальвацыя, на якую пайшоў тады ўрад, выліваецца сёння ў абвальнае падзенне грашовай адзінкі. Інакш не назавеш падзеі на фінансавым рынку гэтай краіны. Цесна пераплеценыя сувязямі з «суседкай», мы таксама з хваляваннем чакаем, што прынясе новы дзень.

Учарашні ў многіх выклікаў літаральна шок: на Міжбанкаўскай валютнай біржы ў Маскве курс дасягнуў... 50 рублёў за долар. Зразумела, апусціцца і легчы на дно расійскаму рублю не далі. Таргі былі спынены, а курс Цэнтрабанкам зафіксаваны на велічыні, што ўсталявалася напрыканцы мінулага тыдня. Тым не менш, катастрофа рубля відавочная.

Аднак у Беларусі драматызаваць падзеі з нагоды «сямімільнага» скачка USD, здаецца, не маюць намеру. Многія эканамісты канстатуюць, што разбураную фінансавым крызісам Расію зараз чакае выбар паміж дрэнным і вельмі дрэнным. Гэта значыць паглыбленне крызісу чакае расіян у выпадку далейшага зацягвання з выбарам прэм'ер-міністра. Афіцыйныя асобы, дарэчы, мяркуюць, што ў нас не можа адбывацца таго, што творыцца ў Расіі.

Вось думка начальніка ўпраўлення інфармацыі Нацыянальнага банка Беларусі Анатоля ДРАЗДОВА.

— Чаму ў Расіі церпяць ад крызісу ўкладчыкі? Па-першае, у расіян рэсурсная база банкаў на 30 працэнтаў была сфарміравана з укладаў насельніцтва. Па-другое, усе гэтыя грошы былі кінуты на фінансавы рынак. Што датычыцца нашай рэспублікі, то ў беларускіх банкаў рэсурсная база толькі на 10 працэнтаў сфарміравана з укладаў. І, галоўнае, у Беларусі ўсе крэдыты пайшлі ў рэальны сектар эканомікі.

— Тым не менш, пазабіржавы курс беларускага рубля ў сувязі з апошнімі падзеямі ў Расіі таксама істотна «закульгаў».

— Для панікі падстаў няма ніякіх. Справа ў тым, што сёння на рахунках нерэзідэнтаў знаходзіцца каля 500 мільярдаў беларускіх рублёў і ў «расхістванні» курса не апошняя іх заслуга: проста нерэзідэнты спрабуюць кампенсаваць страты на расійскіх рынках.

Афіцыйны Мінск упэўнены, што катаклізмы рэспубліку не чакаюць. Лічбы, якія называюцца ў кулуарах і датычацца курса беларускага рубля, вагаюцца ад 75 тысяч рублёў за наяўны долар да 140 тысяч за безнаяўны. Прычым многія са спецыялістаў не губляюць надзеі на тое, што менавіта ў такія «цывілізаваныя» рамкі ён і вернецца. Калі гэта будзе — гэта ўжо іншае пытанне. А ў панядзелак днём на ценявым банкнотным рынку долар скупляўся валютчыкамі ўжо па 92—100 тысяч рублёў. Купіць USD было цяжка нават у мянял, магчыма, толькі па «завоблачнаму курсу».

Аднак вернемся да курса расійскага рубля. Вось думка наконт таргоў у Маскве загадчыка аддзела Інстытута эканомікі Нацыянальнай акадэміі навук Аляксандра ЛУЧАНКА:

— Курс 50 рублёў за долар нерэальны. На мой погляд, як толькі ў Расіі выберуць прэм'ер-міністра, курс рэзка ўпадзе. А зараз вядзецца нейкая гульня. Без цвёрдай рукі, зразумела, пачалося расхістванне валютнага рынку. Паўтаруся: гэта нерэальныя хістанні. Таму не трэба паддавацца паніцы.

Дарэчы, на думку Аляксандра Іванавіча, курс долара, калі будзе зацверджана кандыдатура кіраўніка расійскага ўрада, упадзе і спыніцца прыблізна на 14 рублях за долар.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**



## З Оршы свята беларускага пісьменства «пераязджае» ў Пінск. А раптам — і ва ўсе іншыя гарады, мястэчкі, вёскі Беларусі?..

**У знакамітым, багатым на гістарычныя падзеі горадзе Орша ў мінулую нядзелю прайшло сапраўды грандыёзнае, з размахам, свята — Дзень беларускага пісьменства. На яго правядзенні афіцыйна было абвешчана, што наступным месцам святкавання стане не менш знакаміты Пінск.**



По традыцыі гасцямі аршанскага свята, якое, дарэчы, з сёлетняга верасня набывае афіцыйны статус дзяржаўнага, былі вядомыя пісьменнікі, журналісты, дзяржаўныя афіцыйныя асобы. Сонечнае надвор'е, восеньская афарбоўка паркаў і сквераў, прыязныя ўсмешкі на тварах — усё сведчыла, што не так ужо і дрэнна жывуць людзі і ў Оршы, і ва ўсёй нашай краіне. Невыпадковым элементам у праграме ўрачыстасцяў сталася фотавыстаўка «Беларусь аптымістычная» (яе арганізатар — Грамадскі прэс-цэнтр Беларускага Дома прэсы).

Відаць, Орша даўно не бачыла (а мо і зусім не сустракала на сваіх вуліцах) адразу столькі пісьменнікаў, кожны з якіх гатовы быў чытаць вершы, надпісваць аўтографы на сваіх кнігах, весці дыскусіі з чытачамі... Уладзімір Някляеў і Сяргей Законнікаў, Леанід Дранько-Майсюк і Павел Саковіч, Навум Гальпяровіч і Леанід Левановіч, Адам Мальдзіс і... Сапраўды, каму, як не пісьменнікам, несці павагу, любоў да слова, да роднай літаратуры, нацыянальнай культуры ў масы, да шырокай грамады.

І таксама — каму, як не журналістам, выдаўцам, паліграфістам, распаўсюджвальнікам перыёдыкі. «Звязда» трымала і трымае гэтае перакананне ў памяці. Таму на свяце, на галоўнай аршанскай плошчы, і была заўважнай, прыкметнай наша газета — праз стэнд, праз латарэю, якую праводзілі ўжо спецыяльна для аршанцаў і гасцей горада, для ўсіх удзельнікаў свята. Па традыцыі «Звязда», акрамя іншых прызоў, разыграла жывыя прызы — пеўня і курыцу, якія спакойна, без лішняга шуму чакалі свайго часу і сваіх новых гаспадароў у клетцы. Прадаставіла жывыя прызы Аршанская птушкафабрыка, за што яе калектыву і кіраўніцтву вялікі дзякуй. Шчаслівай уладальніцай пеўня стала кіраўнік Магілёўскага абласнога аддзялення «Белсаюздруку» спадарыня Бабіч.




...Святкаванне ў Оршы Дня беларускага пісьменства падштурхоўвае і да наступных разваг. Добра было б, калі б дзень гэты, свята гэтае адначасова ладзіліся па ўсёй краіне. Каб не толькі ў друку адзначалася, што, маўляў, шаноўныя чытачы, у першую нядзелю верасня вас чакае такая падзея. А каб святкавалі, ушаноўвалі (лепей за ўсё — прыкметнай справай) беларускае слова, прыгожае пісьменства ва ўсіх раённых цэнтрах, ва ўсіх школах, бібліятэках, найперш там, дзе ёсць моладзь, дзе ёсць прыхільнасць да нацыянальнай культуры і роднай мовы.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

**На здымках:** *урачыстае адкрыццё свята; каля «звяздоўскага» стэнда; мемарыяльны знак у гонар кнігадрукара і асветніка, заснавальніка Куцеінскай друкарні Спірыдона Собаля.*

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 7 ВЕРАСНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (017) | | | | | | | |
| Мінсккомплексбанк | 60000 | 60500 | 34300 | 34700 | 4300 | 4450 | 228-2047 |
| Пріорбанк | 59000 | 60500 | 33900 | 34700 | 3000 | 4400 | 245-5721 |
| Нацыянальны банк РБ афіцыйны курс (курс для безнаяўных разлікаў) | 50600 | | 29329,93 | | 3000 | | Курс на 08.09.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 18,9 | | 10,9756 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваецца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

***Першы выпуск штогадовага даведачнага альманаха «Курсы Нацбанка РБ і Цэнтрабанка РФ» за перыяд з 1990 па 1997 гады можна набыць, пазваніўшы па тэл. (017) 228-59-80.***

### Усміхнёмся!

**Пытанне:**

— *Колькі часу пойдзе ў вас на вывучэнне кітайскай мовы?*

Прафесар:

— *Ну, гады дватры... Але пры ўмове добрай размоўнай практыкі!*

Дацэнт:

— *Ну, год-два... Пры ўмове добрай размоўнай практыкі!*

Студэнт:

— *А калі здаваць?*




**Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.**

# У БЕЛАРУСІ І ЮНЕСКО АГУЛЬНЫЯ МЭТЫ І ЗАДАЧЫ, ТАМУ ІМ ЛЁГКА СУПРАЦОЎНІЧАЦЬ

У нядзелю пачаўся трохдзённы афіцыйны візіт у Рэспубліку Беларусь генеральнага дырэктара ЮНЕСКО Федэрыка Маёра. У сярэдзіне дня ён прыбыў рэйсам нямецкай авіякампаніі «Люфтганза» ў нацыянальны аэрапорт «Мінск-2», дзе высокага госця сустракалі міністр замежных спраў Беларусі Іван Антановіч, яго намеснік, старшыня Нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКО Ніна Мазай, пастаянны прадстаўнік Рэспублікі Беларусь пры ЮНЕСКО Уладзімір Сянько і іншыя афіцыйныя асобы.

Адказваючы ў аэрапорце на пытанні журналістаў, Федэрыка Маёр асноўнай мэтай свайго візіту ў Беларусь назваў падпісанне шэрагу дамоўленасцяў з урадам рэспублікі. Перш за ўсё, сказаў Генеральны дырэктар ЮНЕСКО, неабходна разгледзець нашы ўзаемаадносіны ў галіне ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС. На апошняй Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКО, паведаміў Федэрыка Маёр, было прынята рашэнне выдзеліць на гэтыя мэты яшчэ 189 тысяч долараў ЗША. За гады, што мінулі з моманту чарнобыльскай аварыі, гэта арганізацыя выдзеліла нашай краіне 2 мільёны долараў для ліквідацыі наступстваў катастрофы, дадаў Іван Антановіч. Ён салідарны з Федэрыка Маёрам у тым, што супрацоўніцтва паміж Беларуссю і ЮНЕСКО знаходзіцца на даволі высокім узроўні.

Іван Антановіч, у прыватнасці, падтрымаў ідэю Федэрыка Маёра рэфарміраваць ЮНЕСКО. Размова ішла таксама і аб тым, што гэта арганізацыя павінна садзейнічаць сродкамі адукацыі, навукі і культуры міру ва ўсіх краінах. Акрамя таго, ЮНЕСКО неабходна больш дынамічна рэагаваць на працэсы, што адбываюцца ў грамадстве, і быць сусветным інтэлектуальным форумам для абмену ідэямі. Прыкладам таго могуць служыць створаныя па ініцыятыве Федэрыка Маёра спецыяльныя сусветныя камісіі, такія як «Адукацыя да XXI стагоддзя», «Культура і развіццё». У іх рабоце прымаюць удзел людзі, якія вызначыліся ў той ці іншай галіне, а ўзначальваюць іх таксама вядомыя ва ўсім свеце палітыкі і грамадскія дзеячы.

Пасля перагавораў у МЗС высокі госць адправіўся ў Нацыянальную бібліятэку краіны. Тут яго чакаў міністр культуры Аляксандр Сасноўскі. Каменціруючы па просьбе карэспандэнта БЕЛТА праведзеную гутарку, міністр адзначыў, што ў цэлым узровень супрацоўніцтва паміж Беларуссю і ЮНЕСКО ў галіне культуры можна ахарактарызаваць толькі са станоўчага боку. Ён высока ацаніў намаганні ЮНЕСКО ў галіне захавання традыцыйнай культуры. Цяпер гэта арганізацыя распрацоўвае новую канцэпцыю аховы гістарычнай спадчыны. Нямала зроблена ёю і для развіцця Нацыянальнай бібліятэкі нашай краіны, якая дзякуючы дапамозе ЮНЕСКО была аснашчана камп'ютэрным абсталяваннем. Федэрыка Маёр высока ацаніў план развіцця галоўнай бібліятэкі краіны, а таксама ўзровень сістэмы эстэтычнага выхавання ў Беларусі.

«У ходзе нашай гутаркі генеральны дырэктар ЮНЕСКО асабліва падкрэсліў, што рыначныя адносіны ў культуры — катастрофа для яе, і што дзяржава заўсёды павінна захоўваць свае пазіцыі ў гэтай сферы. Я яго поўнасцю падтрымліваю», — сказаў Аляксандр Сасноўскі. Паводле яго слоў, у ЮНЕСКО прынята рашэнне выдзеліць некалькі дзесяткаў тысяч долараў і на праграму па беларускай геральдыцы.

Федэрыка Маёра чакаў у Нацыянальнай бібліятэцы прыемны сюрпрыз. Тут адбылася прэзентацыя кнігі яго вершаў «Быць чалавекам», выпушчанай нядаўна выдавецтвам «Мастацкая літаратура». Генеральны дырэктар ЮНЕСКО вядомы ва ўсім свеце не толькі як вучоны і цудоўны арганізатар, але і як таленавіты паэт. Яго вершы, у якіх — філасофскае асэнсаванне жыцця, перакладзены на многія мовы, а цяпер і на беларускую. Праілюстраваў выданне народны мастак Беларусі Арлен Кашкурэвіч.

Знаёмства з культурным жыццём нашай краіны высокі госць прадоўжыў нядзельным вечарам у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы, дзе адбылася яго сустрэча з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі.

Звяртаючыся з прывітальным словам да генеральнага дырэктара ЮНЕСКО, міністр культуры Аляксандр Сасноўскі запэўніў яго, што Беларусь заўсёды гатова выконваць свае абавязацельствы перад гэтай буйнейшай міжнароднай арганізацыяй, якая займаецца пытаннямі культуры, адукацыі і навукі. Наша краіна ўступіла ў ЮНЕСКО 44 гады таму і з асаблівым поспехам развіваецца супрацоўніцтва ў галіне аховы гісторыка-культурнай спадчыны і традыцыйнай нацыянальнай культуры. Пад аховай ЮНЕСКО знаходзіцца Белавежская пушча, у кола інтарэсаў гэтай арганізацыі ўключана рэстаўрацыя Мірскага замка.

У слове ў адказ Федэрыка Маёр асноўную ўвагу сканцэнтраваў на галоўным напрамку дзейнасці ЮНЕСКО — садзейнічаць захаванню міру на Зямлі. Ен адзначыў, што людзі павінны выступаць супраць войнаў і насілля, выхоўваць адпаведным чынам моладзь, імкнуцца стварыць такі клімат у грамадстве, пры якім процістаянні будуць выключаны.

* * *

Пагадненне аб супрацоўніцтве паміж ЮНЕСКО і Нацыянальнай акадэміяй навук Беларусі падпісана 7 верасня ў Мінску. Подпісы пад дакументам паставілі прэзідэнт акадэміі Аляксандр Вайтовіч і генеральны дырэктар ЮНЕСКО Федэрыка Маёр, які знаходзіцца ў нашай краіне з афіцыйным візітам.

Федэрыка Маёра сустракалі ў Нацыянальнай акадэміі навук не толькі як генеральнага дырэктара ЮНЕСКО, але і як выдатнага вучонага. Цяпер ён з'яўляецца правадзейным членам акадэмій больш чым дзесяці краін і членам Рымскага клуба. Федэрыка Маёр — аўтар звыш 80 навуковых артыкулаў у спецыялізаваных навуковых выданнях і шматлікіх навукова-папулярных работ па праблемах метабалізму галаўнога мозгу, перадродавай біяхіміі і малекулярнай паталогіі ў нованароджаных. Ён з'яўляецца заснавальнікам Цэнтра малекулярнай біялогіі аўтаномнага Мадрыдскага універсітэта, а таксама ганаровым доктарам навук шэрагу універсітэтаў, мае ганаровыя ўзнагароды многіх краін. Цяпер ён стаў яшчэ і ганаровым прафесарам Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Рашэнне аб прысваенні яму гэтага звання было прынята на апошнім пасяджэнні прэзідыума акадэміі, адпаведнае ж пасведчанне ён атрымаў на сустрэчы з беларускімі вучонымі, праведзенай адразу пасля цырымоніі падпісання пагаднення.

**Аксана ПІВАВАР,**
**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**



## «Мы любім «Звязду», як роднае дзіця»

**«Усе нашы блізкія знаёмыя і сябры, якія выпісваюць «Звязду», называюць сваю любімую газету «звёздачкай» ці «зорачкай». Яна нам свеціць даўным-даўно. І калі бывае, што яна запозніцца, то здаецца, што ў пакоі становіцца хмурна. А як радасна, што «Звязда» выдаецца на беларускай мове, за што мы любім яе, як сваё роднае дзіця.**

**На нашу думку, газету нельга за штосьці папракнуць. Тут і пра вёску, і пра самую глухую глыбінку, і пра старых, якім сёння нялёгка, і пра палітычныя і гаспадарчыя падзеі... Ды хіба ўсё адзначыш? Журналісты пішуць змястоўна, напорыста, цікава, праблематычна. Газета дапамагае простым людзям у вырашэнні іх надзённых патрэб. Мы і нашы сябры будзем верныя сваёй любімай газеце».**

**Вось такое шчырае пісьмо ў адрас «Звязды» перадаў Аляксандр Міхайлавіч Лазоўскі з Навагрудка. Прывезла ліст у рэдакцыю яго ўнучка Дар'я Высоцкая, вучаніца адной з мінскіх школ, з нагоды атрымання прыза. Выйграла дыван яе бабуля Зінаіда Уладзіміраўна Лазоўская. Праўда, пэўны час рэдакцыя не магла выканаць свае абавязацельствы перад ёю. І толькі дзякуючы генеральнаму дырэктару вядомага ў краіне АТ «Дываны Брэста» Сяргею Харытонавічу Федаруку мы змаглі гэта зрабіць. Няхай прыз «Звязды» створыць у вас, Зінаіда Уладзіміраўна і Аляксандр Міхайлавіч, яшчэ большую ўтульнасць і цеплыню.**

# ПРЭЗІДЭНТ АРЫЕНТУЕ НА НЯЎХІЛЬНАЕ ВЫКАНАННЕ ДАМОЎЛЕНАСЦЯЎ

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка 7 верасня 1998 г. прыняў са справаздачай паўнамоцнага прадстаўніка Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у органах інтэграцыі — намесніка прэм'ер-міністра В. Б. Далгалёва.**

Як паведаміла прэс-служба кіраўніка дзяржавы, В. Б. Далгалёў далажыў аб ходзе падрыхтоўкі да правядзення пасяджэння Міждзяржаўнага савета «чацвёркі» — Саюза Беларусі, Расіі, Казахстана і Кыргызстана, а таксама Вышэйшага Савета «двойкі» — Саюза Беларусі і Расіі. Была выказана заклапочанасць станам рабочых матэрыялаў, што датычаць стварэння мытнага саюза, якія пакуль што не ўзгоднены. Паўнамоцны прадстаўнік прэзідэнта падкрэсліў, што Расіяй і Казахстанам прыняты меры, якія па сутнасці зводзяць «на нішто» двухгадовую работу Інтэграцыйнага камітэта «чатырох». Акрамя таго, Кыргызстанам парафіраваны дакументы па ўступленню ў Сусветную гандлёвую арганізацыю (СГА), у выпадку падпісання якіх гэта краіна будзе абавязана выйсці з мытнага саюза.

Прэзідэнт падтрымаў правадзімы беларускім бокам курс на няўхільнае выкананне ўсіх міжнародных дамоўленасцяў у рамках як «двойкі», так і «чацвёркі», і даручыў зрабіць шэраг канкрэтных крокаў, накіраваных на кіраванне сітуацыяй у «чацвёрцы», а таксама на ўсебаковае інфармаванне членаў Вышэйшага Савета аб стане спраў у «двойцы».

Кіраўніку дзяржавы было далажана аб выніках дзейнасці рабочых груп па рэфарміраванню СНД і падрыхтоўцы да афіцыйнага форуму па гэтай праблематыцы, які адбудзецца 15-16 верасня ў Мінску.

Паўнамоцны прадстаўнік праінфармаваў прэзідэнта таксама аб дзеяннях расійскага ўрада ў сувязі з фінансавым крызісам у краіне.

Кіраўнік дзяржавы, заслухаўшы на заканчэнне інфармацыю аб каардынацыі ўзаемадзеяння ўрадавых структур Беларусі і Расіі, даручыў прыняць далейшыя меры ў мэтах павышэння эфектыўнасці сумесных дзеянняў ва ўзніклых умовах.

**БЕЛТА.**

## *Удзельнікам і арганізатарам Міжнароднага пленэру, прысвечанага памяці М. В. Неўрава*

Сардэчна вітаю ўдзельнікаў Міжнароднага пленэру «Вобраз Радзімы ў выяўленчым мастацтве», прысвечанага памяці выдатнага дзеяча выяўленчага мастацтва XIX стагоддзя М. В. Неўрава.

Прыемна, што магілёўская зямля, якая дала гісторыі шмат таленавітых людзей, прадаўжае традыцыю правядзення творчых сустрэч майстроў мастацтваў, тым самым звязваючы разам мінулае, сучаснае і будучае. Менавіта такія штогадовыя мерапрыемствы садзейнічаюць захаванню культурнай і духоўнай спадчыны народаў-братоў, дапамагаюць адчуць глыбіню нашых духоўных пачаткаў, даюць магчымасць далучыцца да высокіх твораў культуры, абмяняцца вопытам, больш даведацца адзін пра аднаго.

Міжнародны пленэр, прысвечаны памяці Мікалая Васільевіча Неўрава, — прыкметная падзея ў культурным жыцці Беларусі, краін блізкага і далёкага замежжа, ён уяўляе сабой працяг рэалістычных традыцый у мастацтве, дэманструе жыццёвую сілу творчасці, садзейнічае стварэнню новых высокамастацкіх твораў.

Жадаю ўсім удзельнікам і арганізатарам Міжнароднага пленэру цікавых сустрэч на беларускай і расійскай зямлі, новых творчых поспехаў, шчасця, здароўя.

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА**

*СПАЖЫВЕЦ*

# ЦЭНАВЫ БАРОМЕТР КАМАРОЎКІ

**Карэспандэнт «Звязды» наведаў у нядзелю Камароўку — галоўны рэспубліканскі харчовы рынак, у якім як у люстэрку можна ўбачыць дынаміку росту цэн на многія тавары. Апошні раз рэдакцыя паведамляла аб цэнах на Камароўцы 3 дні таму. Як моцна за гэты невялікі тэрмін яны змяніліся, мяркуйце самі.**

Больш за ўсіх падвергліся зменам на Камароўцы цэннікі на рыбу. Кілаграм мінтая зараз каштуе 125 тысяч рублёў (быў 98 тыс. рублёў), камбалы — 105 тысяч рублёў, аргенціны без галавы — 170 тысяч рублёў, кеты — 140 тысяч рублёў. Падскочылі ў цане кансервавыя вырабы: бляшанка шпротаў (160 г) каштуе 37-42 тысячы рублёў (было 33 тысячы), печані траскі (230 г) — 125 тысяч рублёў (было 85 тысяч). Адразу трэба заўважыць, што за рыбай на рынку вялікага натоўпу я не бачыў. Справа ў тым, што мінтай у дзяржгандлі каштуе яшчэ 118 тысяч рублёў за кіло.

Не вельмі моцна паднялася цана на алей. Літр нерафінаванага разліўнога алею з Краснадарскага краю — «усяго» 100—105 тысяч рублёў. Бутэлька алею з больш далёкага замежжа — 115—120 тысяч рублёў. Амаль не змяніўся за апошні час кошт айчынных каўбасных і мясных вырабаў. Свіны філей каштуе 190—205 тысяч рублёў, ялавічына — 170—180 тысяч рублёў за кіло. Зноў падскочыў кошт імпартных курыных кумпячкоў — да 138 тысяч рублёў за кілаграм. Дзіўна, але «ножкі Буша» бралі на рынку даволі добра. Не ведаю чаму, бо ў дзяржаўным гандлі курыныя кумпячкі каштуюць не болей як 115 тысяч рублёў.

На 2 тысячы падаражэў за апошнія дні цукар — 36 тысяч рублёў, і на 3 тысячы — пачак аўсяных шматкоў «Геркулес» — 19-20 тысяч рублёў. Памяняліся цэннікі на імпартныя чай і каву. Стаграмовая ўпакоўка растваральнай кавы з Індыі «NESCAFE» каштуе ўжо 180 тысяч рублёў (было 155 тысяч), а грануляваны чай (100 г) «Прынцэса Гіта» сёння ідзе па 42 тысячы рублёў (было 30 тысяч).

Радуе, што пачала таннець сякая-такая агародніна і садавіна: памідоры — 35—40 тысяч рублёў за кіло, перац — 30—35 тысяч рублёў, агуркі — 25—28 тысяч рублёў. Капуста на Камароўцы каштуе 12—16 тысяч рублёў, морква — 15—20 тысяч, цыбуля — 30 тысяч, а бульба нават падаражэла на 1 тысячу — 13—16 тысяч рублёў.

Дзіцячыя памперсы вытворчасці «BABY DRY PLUS» падскочылі ў цане амаль на 100 тысяч рублёў. Упакоўка зараз каштуе 460—470 тысяч рублёў. Хутчэй за ўсё, і гэта не мяжа, бо ў аптэках яны каштуюць ужо 690 (!) тысяч рублёў.

Цэны на айчынныя цыгарэты засталіся ранейшымі: «Астра» — 9 тысяч рублёў, «Гродна» — 17 тысяч рублёў, а вось імпартны «LM» ужо пераваліў 50-тысячную мяжу за пачак.

**Сяргей КУРКАЧ.**

**Расціслаў ЛЯТУН:**

# «Айчынных тавараў пры разумным попыце хопіць усім»

Кіраўнік упраўлення па гандлю таварамі культурна-бытавога і гаспадарчага прызначэння Мінгандлю Расціслаў Лятун лічыць, што зараз у краіне назіраецца нездаровы попыт на ўсе тавары працяглага карыстання. Па старых цэнах цалкам былі выкуплены тавары імпартнай вытворчасці, такія як пральныя машыны, пыласосы, прасы, печы-СВЧ, відэа- і аўдыётэхніка. Па новых, астранамічных цэнах Мінгандлю гэтыя тавары пакуль купляць не збіраецца. Менавіта складанай тэхнікі з далёкага замежжа ў нашых магазінах сёння няма. Разам з тым ва ўсіх рэгіёнах Беларусі пачаўся павышаны попыт і на айчынныя тавары працяглага карыстання. Попыт на тэлевізары павялічыўся ўдвая, на халадзільнікі — на 130 працэнтаў, на дываны і мэблю — болей чым у 3 разы. Амаль ва ўсіх вялікіх і сярэдніх гарадах рэспублікі попыт насельніцтва на тавары працяглага карыстання перавышае прапанаванне. Гэта становішча параджае дэфіцыт таго ці іншага тавару. Па словах Расціслава Мікалаевіча, адміністрацыя магазінаў мае права ў гэтым выпадку абмяжоўваць колькасць продажу аднаго віду тавараў у адны рукі. Калі гэтага не рабіць, то ў краіне зноў расквітнее спекуляцыя. Акрамя таго, сёння часова забаронены продаж тавараў працяглага карыстання юрыдычным асобам па безнаяўнаму разліку. Гэтыя меры часовыя, лічыць спадар Лятун, і праз тыдзень-другі яны будуць адменены.

Па меркаванню супрацоўніка міністэрства, тавараў працяглага карыстання айчынныя прадпрыемствы выпрацоўваюць дастаткова, і калі попыт на іх вернецца ў разумныя рамкі, недахвату ў іх не будзе.

Прэс-сакратар міністра гандлю Вячаслаў Лявонаў лічыць, што ва ўсіх рэгіёнах гандаль поўнасцю насычаны прадуктамі харчавання. Што датычыцца тавараў працяглага карыстання, то іх сапраўды месцамі не хапае. Але гэта, па меркаванню прэс-сакратара, не гаворыць аб нейкіх збоях у гандлі, а ёсць рэакцыя рынку на нездаровы, ажыятажны попыт насельніцтва.

**Сяргей КУРКАЧ.**

# Алігархі гатовы фінансаваць дыктатуру

Газета ўзяла інтэрв'ю ва Уладзіміра Жырыноўскага, у якім, у прыватнасці, ён сказаў:

— Неабходна прадухіліць наступленне дыктатуры.

**— Гэтая пагроза рэальная?**

— Так вырашыла Амерыка. Клінтан прыехаў, каб знайсці магчымых дыктатараў. Яны ўжо намечаны. Будучы цар — сярод чатырох чалавек, з якімі ён сустракаўся. Гэта мэр Масквы Лужкоў, кіраўнік лібералаў Яўлінскі, губернатар Лебедзь і сакратар камуністаў Зюганаў. Хто з іх? Не пытайцеся пра гэта ў мяне.

**— Якая роля фінансавых баронаў, алігархаў?**

— Яна фундаментальная ў разбурэнні Расіі, у дапамозе Захаду ў рабаванні яе багацця. Яны ўсімі сіламі падтрымліваюць гэты злачынны рэжым, і цяпер шэры кардынал Крамля Барыс Беразоўскі дабіўся адхілення клана Чубайса. Аднак Захад зразумеў, што гэтая «дэмакратыя» больш некіруемая, і для працягу выпампоўвання рэсурсаў з Расіі неабходна дыктатура. Алігархі гатовы яе фінансаваць.

**— Вы не верыце Ельцыну? Прэзідэнт заявіў, што застанецца да 2000 года.**

— Стары ўжо даўно павінен быў пайсці на пенсію. Ён спадзяецца на дзве каманды ўрачоў, якія яго лечаць, і не ўспамінае прыклады Сталіна і Андропава. Менавіта медыкі іх забілі. Чаму яны не могуць зрабіць тое ж з Ельцыным, калі ён больш не будзе задавальняць?

**— Ці існуе небяспека грамадзянскай вайны?**

— На жаль, так. Баяздольнасць арміі роўная нулю. На справе няма нікога, хто б мог процістаяць паўстанню, і можа ўзнікнуць крывавая бойка, масавае забойства. Рускі народ павінен ратавацца самастойна.

**«Кар'ерэ дэла сера» (Італія).**

# Жніво набліжаецца да «фінішу

**Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў аддзеле земляробства і раслінаводства Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, усяго ўбрана збожжавых і зернебабовых на плошчы 2,1 мільёна гектараў, што складае 83 працэнты ад засеянага.**

Лідзіруюць Гродзенская і Брэсцкая вобласці — 91 і 90,6 працэнта адпаведна. Самыя нізкія паказчыкі за Магілёўшчынай — 73,5 працэнта.

Ураджайнасць працягвае зніжацца — учора яна складала 23 цэнтнеры з гектара. Самы высокі паказчык трымае Гродзеншчына — 30,8 ц/га. Усяго намалочана 4,8 мільёна тон збожжа.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

*ВЫТВОРЧЫЯ ДРАМЫ*

# БЕЛАРУСКАЕ «САВЕЦКАЕ ШАМПАНСКАЕ» ЗАГАДАЛА ДОЎГА ЖЫЦЬ ЦІ ЧАСОВА ПАЙШЛО Ў ПАДПОЛЛЕ?

На Мінскім заводзе шампанскіх він спынена вытворчасць «Савецкага шампанскага», якое яшчэ некалькі дзён таму ў рознічным гандлі можна было купіць крыху больш чым за 100 тысяч «зайчыкаў», а на прадпрыемстве адпускная цана ўвогуле была смешнай — 79.700 рублёў за бутэльку.

Сітуацыя, трэба сказаць, склалася тут заблытаная і далёкая ад усякай разумнай логікі. І ўсё «дзякуючы» рашэнню, кіруючыся якім, штомесяц вытворцы (у нашым выпадку шампанскага) могуць падняць адпускную цану ў айчынных разліковых білетах не болей чым на 2 працэнты. Канешне, гэта даволі прымальны варыянт і для прадаўца, і для пастаўшчыка, калі не лічыць галапіруючых тэмпаў дэвальвацыі рубля і агульнай інфляцыі, якая імгненна з'ядае абаротныя сродкі.

Менавіта з рэзкім павелічэннем курса долара ўжо ў ліпені страты на кожнай бутэльцы выпушчанага «Савецкага шампанскага» склалі амаль 9 тысяч рублёў, а ў жніўні гэтая лічба павялічылася амаль удвая. Таму прыйшлося пайсці на непапулярныя меры — спыніць вытворчасць гэтай маркі шыпуча-пеністага напою. Гэта якраз той выпадак, калі выгадней не працаваць, чым працаваць. Дакладней, мудрэй проста не лезці ў даўгавую яму, з якой звычайна мяжуе банкруцтва. А паколькі працэс разліву шампанскага — не што іншае, як замкнёны вытворчы цыкл, і нават кароткачасовае спыненне парушыць усе тэхналагічныя працэсы прыгатавання гэтага напою. Завод яшчэ трымаецца за кошт выпуску шампанскага «Москва Златоглавая». Пры сённяшняй адпускной цане на ўказаны напітак у 123.800 рублёў яго рэнтабельнасць была мізэрна малой. Праўда, яна яшчэ больш змяншаецца, калі адмінусаваць ад пакуль прыбытковай вытворчасці «Москвы Златоглавой» страты ад выпуску «Савецкага шампанскага» — больш як 7 мільярдаў рублёў.

Калі па вялікаму рахунку, то для МЗШВ гэтая сума — не тыя грошы, над якімі варта плакаць. Дзяржаўная казна пакуль штодзень падаткамі атрымлівае ад работы сталічных шампаністаў каля 4 мільярдаў «зайчыкаў». Праўда, гэты фінансавы паток у бюджэт з кожным днём пачынае змяншацца, бо вінаматэрыялаў на заводзе засталося толькі на чатыры месяцы работы.

А старая гісторыя пра тое, як Мінскі завод шампанскіх він не можа пагасіць астатак валютнага крэдыту ў суме 1,9 мільёна долараў ЗША (уся сума складала 3 млн. долараў), узяты ў студзені 1997 года ў Белзнешэканомбанку для закупкі вінаматэрыялаў, ужо ўсім чыноўнікам аскому набіла. Завод і сёння спрабуе канверсаваць родныя «зайчыкі» ў СКВ, аднак справа гэта марная. А таму пакуль кожны месяц паралельна з падаткамі банку прыходзіцца плаціць пеню — амаль два мільярды рублёў. Сітуацыя стала тупіковай. Няма магчымасці пагасіць і кошт вінаматэрыялаў, дадзеных МЗШВ пад слова гонару пастаўшчыкамі з Еўропы — Венгрыі, Славакіі, Румыніі. Сума за сыравіну таксама даволі круглая — больш як 2.600 тысяч долараў. Калі б замежныя партнёры не выручылі ў свой час нашых вытворцаў шампанскага — завод даўно стаяў бы «на прыколе». А так тут яшчэ жывуць і спадзяюцца, што пытанне з канвертацыяй беларускіх «зайчыкаў» у валюту будзе вырашана і дзяржава па-ранейшаму будзе мець 450 мільярдаў рублёў (сума ўказана да падзення расійскага і, адпаведна, беларускага рублёў) падаткаў у год. Калі ж разумення складанасці сітуацыі на МЗШВ у дзяржавы не будзе, то быць заводу на каленях. Не ад добрага жыцця, вядома, на прадпрыемстве шукаюць выйсце, як загрузіць лінію разліву пры адсутнасці вінаматэрыялаў. Хутка павінен убачыць свет вінны вінаградны напітак «Дыскатэка», распрацоўваюцца яшчэ некаторыя напоі. Праўда, пры іх масавым выпуску мінскія вытворцы шампанскага страцяць свае прафесійныя навыкі па выпуску высакаякаснай прадукцыі — айчыннага шампанскага, якое ўжо даўно атрымала міжнароднае прызнанне. І гэта пры адсутнасці стабільных экспартных паставак, якія абцяжараны многімі абставінамі. А дзяржава страціць надзейнага падаткаплацельшчыка.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

*ЛЁСЫ ЛЮДСКІЯ*

# І СТАЛІ СПАРТСМЕНЫ ФЕРМЕРАМІ

Ішоў дождж — і пчолы не ляталі. Настрой, прызнацца, быў не лепшым, тым болей, што амаль паўдня патрацілі ў пошуках пчальніка. На што ўжо намеснік начальніка Чашніцкага райсельгасхарча Аркадзь Лепяцёнак, які больш за дваццаць гадоў аддаў працы на хлебнай ніве і ведае кожны луг і поле ў раёне, і той не мог даўмецца, дзе ж цяпер тыя пчолы і пчаляры.

— Гэтай вясной пчальнік размяшчаўся вунь на тым узмежку, — крыху разгублена развёў рукамі Аркадзь Іванавіч, калі мы зарулілі на даволі маляўнічы лужок, што раскінуўся паміж кустоўем і берагам невялічкай рачулкі. — Вунь там стаялі пчаліныя домікі, а побач з хлеўчуком і вагончык Валодзі Шамбалёва. І дзе яны цяпер?..

Сапраўды, дзе? Колькі кіламетраў давялося намотаць па бясконцых палявых дарогах, па якіх можа прайсці хіба што трактар ды яшчэ такі «рысак», як нястомны «УАЗік», пакуль не вырулілі на парэзаную глыбокімі каляінамі дарогу і не заўважылі сярод кустоўя даволі маляўнічую паляну. Вось там і атабарыўся са сваімі пчоламі Уладзімір Шамбалёў.

Быў ужо надвячорак. Валодзя, па словах яго жонкі Таццяны, недзе падкошваў траву і вось-вось павінен быў з'явіцца. Бо ёй неабходна было ехаць у вёску, хутка пастух прыгоніць жывёлу, дык трэба загнаць карову, бычка, накарміць свіней, курэй... Ці мала клопатаў у вясковай жанчыны, нават калі яна не працуе? Але ж Таня разам з мужам даглядае яшчэ і пчальнік, дзе амаль сотня пчаліных домікаў. Вось і цяпер маладзіца размешвала нешта ў звычайным бідоне. Заўважыўшы мой цікаўны позірк, пачала тлумачыць:

— Канец лета выдаўся вельмі дажджлівым, пчолы амаль не выляталі. І калі не падкарміць іх сіропам, то або загінуць ад голаду, або пачнуць красці мёд у суседзяў. Больш моцныя і працавітыя сем'і запасліся на зіму. Але не ўсе...

«Усё як у людзей», — падумалася ў тую хвіліну. Адны працуюць ад цямна да цямна, шчыруюць не шкадуючы сіл, іншыя ж не супраць урваць лішні кавалак. За сёлетні сезон тройчы давялося мяняць месца дыслакацыі: ранняй вясной па-над рэчкай пчолы дужа шчыравалі на вярбе, у пасадках маладога сасняку, пасля перабраліся бліжэй да пасеваў донніку, іншага разнатраўя. Так вось і вандравалі з імі да самай восені.

Нарэшце падышоў і сам гаспадар. Высокі, статны мужчына, пра якіх прынята казаць: цэлы сажань у плячах. Заўважыўшы Аркадзя Іванавіча, прыязна ўсміхнуўся яму. На мяне паглядзеў даволі насцярожана: якая патрэба прывяла незнаёмца ў такую далеч?

Уладзімір Уладзіміравіч аказаўся даволі гаваркім, хоць на першым часе быў стрыманым. Вясковыя людзі рэдка каму спяшаюцца раскрыць душу. А мне карцела даведацца, як гэта былыя спартсмены (Таццяна — майстар спорту па акадэмічнаму веславанню, прызёр і пераможца многіх буйных спаборніцтваў, Уладзімір — першаразраднік па лыжах) адважыліся стаць фермерамі?

— Рашэнне гэта выспела спакваля, — апавядае Таццяна. — Я ўзначальвала раённы спорткамітэт, Уладзімір — таварыства «Ураджай». Потым перабраліся ў саўгас «Пачавічы» — патрэбна было жытло. Я стала працаваць у мясцовай школе. І вось аднойчы ўвечары павялі размову пра фермерства: я нарадзілася і вырасла ў вёсцы, Уладзімір — таксама з патомных хлебаробаў. Так што праца на зямлі нам з дзяцінства знаёмая. Словам, на сямейнай нарадзе пярэчанняў не было.

— Трэба зазначыць, што і саўгаснае, і раённае начальства пайшло нам насустрач, — уступае ў размову Уладзімір. — Выдзелілі 36 гектараў зямлі, дапамаглі з крэдытам на набыццё тэхнікі. Цяпер маем у гаспадарцы тры трактары, неабходны прычапны інвентар. І ўсё ж земляробчая справа пры сённяшніх да яе адносінах наўрад ці пракорміць нават саміх фермераў. Пры існуючых цэнах на сельскагаспадарчую прадукцыю можна лёгка вылецець у трубу. А таму мы ўсур'ёз вырашылі заняцца пчалярствам, балазе, і мой бацька, і дзед былі пчалярамі. Таму адначасова з земляробствам, жывёлагадоўляй паспрабавалі разводзіць і пчол. Тройчы пабываў на рэспубліканскіх курсах па пчалярству, якія арганізоўваў Мінсельгасхарч. Як кажуць, «падкаваўся» тэарэтычна, астатняе — практыка.

— І як, атрымліваецца?

— Пры жаданні ўсё можна зрабіць. Летась, напрыклад, атрымалі больш за 2 тысячы кілаграмаў мёду. Сёлетні дажджлівы год — не вельмі прыдатны для пчол, але без мёду не засталіся. Трэба ўсюды прыкладваць рукі. Тады і вынік будзе.

Уладзімір Уладзіміравіч — чалавек азартны. І жонка яму да пары. Абое шчырыя, працавітыя людзі. А яшчэ — рамантыкі. Вырашылі ў чыстым полі пабудаваць узорнае падвор'е. Узвялі кароўнік на 30 галоў, розныя дапаможныя будынкі. Але асаблівая гордасць гаспадара — дом. Вялікі, драўляны, бярвёны — як звон, адно ў адно. Праўда, апошнім часам тэмпы будаўніцтва запаволіліся. Усё ўпіраецца ў грошы, якіх катастрафічна не хапае на бягучыя патрэбы.

Сёння ўсім цяжка, а фермеру — тым болей. Калі калгас можа рэальна разлічваць на нейкія датацыі з боку дзяржавы, то фермер — толькі на ўласныя кемлівасць, сілы і веды. Пасеяць яшчэ сяк-так можна. А вось калі да ўборкі справа даходзіць, то тут хоць крыкам крычы. Сёння не толькі ў раёне, а і ў рэспубліцы лічаныя фермеры маюць збожжаўборачныя камбайны, ды і тыя старыя. А новы купіць кішэня не дазваляе. Нават далёка не кожны калгас можа купіць новы агрэгат. Зноў жа цэны на прадукцыю ўпалі. Летась за тону збожжа дзяржава плаціла 130 долараў па курсу Нацбанка. І сёлета — тое ж самае. Толькі курс той вельмі дзіўны. Не задавальняюць земляробаў і закупачныя цэны за мяса, малако. Людзі губляюць веру ў выніку сваёй працы. Ці не таму колькасць фермераў у тым жа Чашніцкім раёне з году ў год скарачаецца. Такое ж становішча і ў цэлым па рэспубліцы.

Мы па-сяброўску развіталіся з гасціннымі гаспадарамі пчальніка. Што іх чакае наперадзе? Можа, сваім маладым запалам, верай у лепшае ўсё ж дакажуць, што і фермеру ёсць месца на гэтай зямлі? Дай Бог!

**Уладзімір ГОЙТАН,**
Чашніцкі раён.



# «НЕ ТРЭБА ЖЫЦЬ ЯК НАБЯЖЫЦЬ...»

## Анатолю Грачанікаву заўтра споўнілася б 60

Неяк не верыцца, што гаварыць пра Анатоля Грачанікава даводзіцца ў мінулым часе: жыў, працаваў, пісаў, любіў, кахаў, быў шчырым сябрам, прыгожым душой і знешнасцю чалавекам, паэтам ад Бога.

Быў? А можа, у дачыненні да сапраўдных Паэтаў, да руплівых Творцаў гэта слова не падыходзіць?..

На пачатку дарогі, хацеў ён таго ці не хацеў, па-свойму прымхлівай стала для паэта лічба «7»: сем гадоў адлічыў яму час ад першага верша да першай кніжкі, столькі ж давялося чакаць выхаду другой...

Падмуркам для творчасці стала Любоў. У самым шырокім сэнсе слова. Любоў да роднай зямлі, да людзей, да прыроды, да ўсяго прыгожага, што асвятляе наша жыццё, робіць яго прывабным, будзённым: «Калодзеж капаюць! Калодзеж капаюць!.. Чыстае ўсё на сябе апранаюць. Не сварацца цёткі. Не кураць мужчыны. Як быццам сабраліся тут на радзіны...»

*Не трэба жыць як набяжыць.*
*Так жыць на свеце трэба,*
*Каб да апошніх дзён любіць*
*Людзей, зямлю і неба.*

Ён быў простым і сціплым у жыцці. Гэтай чалавечай прастаты і сціпласці не пахіснулі ні тыя пасады, якія яму давялося займаць, ні тыя заслужаныя ўзнагароды, якімі была адзначана яго творчасць для дарослых і дзяцей — званні лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, Дзяржаўнай прэміі БССР, Усесаюзнага літаратурнага конкурсу імя М. Астроўскага. Бо ён быў Чалавекам, быў Асобай і ў літаратуры, і ў жыцці наогул, не імкнуўся да ўяўнага і падманнага аўтарытэту. Ён быў Інтэлігентам. Змог зрабіць службовую кар'еру, але не стаў кар'ерыстам.

Ён пайшоў з жыцця напрадвесні, 7 сакавіка. Няпоўных сем гадоў не дажыў паэт да свайго юбілею, да 60-годдзя. Зноў — усё тыя ж прымхлівыя «7», але на гэты раз — жалобна-скрушлівыя...

... Журліва, нібы ў зачараваным сне, скідае на зарослы дол чырвоную лістоту малады стройны клён. Тут, на дачы, непадалёк ад ганка, дзе любіў адпачываць і думаць у вечаровай цішыні мой зямляк і сябар, мой сусед па Лысай гары, пасадзілі яго Анатолевы сябры. Няхай расце, радуе сваёй красой дзяцей і ўнукаў, зямлю і птушак, роднае неба, спявае пра жыццё, у якім ёсць вераснёвая пара памяці паэта.

**Мікола ЧАРНЯЎСКІ,**
**лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі МАЎРА.**

НА ЗДЫМКУ: сям'я Грачанікавых: Нэля Іванаўна, Алеся, Андрэй, Анатоль Сямёнавіч. *(Фота 70-х гадоў.)*

*ФУТБОЛ*

# ДАТЧАНЕ ПАВЕЗЛІ З БЕЛАРУСІ ТОЛЬКІ АДНО АЧКО, НАЗВАЎШЫ СВАІХ САПЕРНІКАЎ «МОЦНЫМ АРЭШКАМ»

Дагэтуль папярэднія адборачныя матчы, калі не лічыць сенсацыйнай перамогі над галандцамі, цяперашнія падначаленыя Міхаіла Вяргеенкі супраць еўрапейскіх сераднячкоў праводзілі няўдала. Памятаеце дамашнія пройгрышы: нарвежцам — 0:4, чэхам — 2:4, шатландцам — 0:1, шведам — 1:2, аўстрыйцам — 0:1? За чатыры гады выступленняў у матчах такога рангу сталічны стадыён «Дынама» наогул бачыў толькі дзве «нічыі» з аднолькавым лікам 1:1. Праўда, сапернікі былі не Бог ведае якія — мальтыйцы і латышы. За апошнія два гады выступленняў у афіцыйных сустрэчах пад кіраўніцтвам Вяргеенкі зборная Беларусі здабыла першае ачко.

А датчане ехалі ў Мінск за перамогай, аб чым сведчылі шматлікія заявы ад іх настаўніка шведа Бу Юхансана. Не выпадкова і журналісцкі корпус налічваў 46 чалавек. А за дзень да пачатку матча з Капенгагена ў Мінск прыйшлі два грузавікі з рэкламнай прадукцыяй, за якую датчане пералічылі Беларускай федэрацыі пэўную суму. Дарэчы, усе рэкламныя «ролікі» дацкага піва «Карлсберг», шведскай фірмы «Эрыксан», якія чаргаваліся праз пэўны прамежак часу, госці ўстанавілі літаральна за некалькі гадзін без малатка і цвікоў.

За некалькі хвілін да фінальнага свістка дацкія журналісты, працуючы на клавіятуры сваіх мадэмаў, з надзеяй паглядалі ў бок варот Андрэя Сацункевіча: а раптам заб'юць. Вельмі ім ужо не хацелася гарачы начны рэпартаж пасылаць з лікам 0:0. Але ж прыйшлося. Трэба спадзявацца, што ў ім былі радкі і пра тое, як нашы хлопцы адбілі айчынным балельшчыкам, якіх у гэты позні час сабралася каля 40 тысяч некалькі падзяк-паклонаў.

Пра вялікую падтрымку стадыёна сказаў на пасляматчавай прэс-канферэнцыі і галоўны трэнер нацыянальнай зборнай Беларусі Міхаіл Вяргеенка. Ён дадаў, што беларусам гульня ўдалася. Хоць у большай ступені гэта датычыцца абароны, а не атакі. Але ж вынікам, які пасля мінулагодніх няўдач дамоклавым мячом вісеў над камандай і над ім асабіста, ён задаволены.

На пытанні журналістаў, чаму ў стартавым саставе не значыўся, безумоўна, адзін з лепшых ігракоў, Сяргей Герасімец, і зыходзячы з якіх пазіцый спадар Вяргеенка выпусціў на поле траўміраванага Міраслава Рамашчанку, Міхаіл Нічыпаравіч адказаў, што Герасімца пакуль непакояць болі ў спіне, і Сяргей сам папрасіў не ўключаць яго ў састаў. Што ж датычыцца Рамашчанкі, то напярэдадні гульні з ім адбылася гутарка. Ён імкнуўся пагуляць, паколькі пасля траўмы не трапляў у асноўны састаў «Спартака», і сказаў: даверыце мне выступіць за зборную — поле пераару.

На пытанні прадстаўнікоў прэсы, наколькі зрыў «трохачковага плана» ў Беларусі паўплывае на надзеі датчан выйсці ў фінальную частку чэмпіянату Еўропы-2000 і чаму ў матчы Беларусь—Данія госці пабудавалі гульню з адным форвардам — на Чэмпіянаце свету-98 яны прымянілі такую тактыку толькі ў гульні з чэмпіёнамі-французамі (ці не камплімент гэта ў адрас нашай каманды), спадар Юхансан парыраваў так: «Я не ўпэўнены, што мы праб'ёмся ў фінал, паколькі трапілі ў вельмі складаную групу. Да таго ж жыццё паказала, што сёння мы гулялі з вельмі моцным сапернікам. І я думаю, што любая з каманд першай адборачнай групы ў Беларусі зможа недалічыцца некалькіх ачкоў.

Пабудаваўшы гульню з адным форвардам, мы нікому не збіраліся раздаваць кампліменты. Проста пасля сусветнага футбольнага першынства ў Францыі састаў нацыянальнай зборнай Даніі значна змяніўся, з'явілася шмат новых ігракоў...

**Пасля матча карэспандэнту «Звязды» ўдалося сустрэцца з некаторымі футбалістамі беларускай зборнай.**

**Сяргей Герасімец («Зеніт», Санкт-Пецярбург):** «Вядома, шкада, што боль у спіне не дазволіў выйсці на поле. А гульнёй каманды і вынікам я задаволены. Думаю тыдні за тры падлячыцца і згуляць 14 кастрычніка ва Уэльсе.

**Міраслаў Рамашчанка («Спартак», Масква):** «Я аддаў усяго сябе гульні. Спадзяюся, што балельшчыкі на мяне не крыўдуюць. Меркаваў, што з траўмай нагі пакончана. Але ж у другім тайме высветлілася, што не. Не ведаю нават, што мне скажа па прыездзе ў Маскву Раманцаў».

**Максім Рамашчанка («Дынама», Масква):** «Лічу, што лік 0:0 для нас нармальны. Датчане ж — гэта не падарунак для зборнай».

**Аляксандр Кульчы («Дынама», Масква):** «Я хоць і не гуляў, але думкамі быў на полі. Шчыра рады, што беларусы згулялі дастойна супраць такога саперніка, як Данія. Так трымаць — і ўсё будзе нармальна».

Паралельна з матчам Беларусь—Данія ў першай адборачнай групе праходзіла гульня Уэльс—Італія. Госці выйгралі з лікам 2:0 і ўзначалілі турнірную табліцу ў групе.

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Італія | 1 | 1 | 0 | 0 | 2-0 | 3 |
| 2. Беларусь | 1 | 0 | 1 | 0 | 0-0 | 1 |
| 3. Данія | 1 | 0 | 1 | 0 | 0-0 | 1 |
| 4. Швейцарыя | 0 | 0 | 0 | 0 | 0-0 | 0 |
| 5. Уэльс | 1 | 0 | 0 | 1 | 0-2 | 0 |

Наступную адборачную гульню і апошнюю ў сезоне 1998 года нацыянальная зборная Беларусі правядзе 14 кастрычніка ва Уэльсе. У гэты ж дзень паміж сабой сустрэнуцца швейцарцы і датчане.

Вынікі астатніх адборачных матчаў, якія прайшлі 5 верасня ва ўсіх дзевяці адборачных групах. **Група 2.** Грузія—Албанія — 1:0, Грэцыя—Славенія — 2:2, Нарвегія—Латвія — 1:3. **Група 3**. Фінляндыя—Малдова — 3:2, Турцыя—Паўночная Ірландыя — 3:0. **Група 4.** Арменія—Андора — 3:1, Ісландыя—Францыя — 1:1, Украіна—Расія — 3:2. **Група 5.** Швецыя—Англія — 2:1, Балгарыя—Польшча — 0:3. **Група 6.** Кіпр—Іспанія — 3:2, Аўстрыя—Ізраіль — 1:1. **Група 7**. Славакія—Азербайджан — 3:0, Венгрыя—Партугалія — 1:3. **Група 8.** Ірландыя—Харватыя — 2:0, Македонія—Мальта — 4:0. **Група 9.** Літва—Шатландыя — 0:0, Боснія і Герцагавіна —Эстонія — 1:1, Фарэрскія астравы—Чэхія — 0:1.

Маладзёжная зборная Беларусі пасля дамашняга пройгрышу з лікам 0:2 датчанам замыкае турнірную табліцу ў групе. А ў лідэрах тут таксама італьянцы, якія перайгралі каманду Уэльса (2:1).

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## НАДВОР'Е — СЁННЯ

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, без ападкаў. Вецер паўднёва-ўсходні, 5—10 м/сек. Тэмпература паветра ў Брэсце — 19—21, Гродне — 18—20, Мінску, Гомелі — 17—19, Віцебску — 16—18, Магілёве — 15—17 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак без ападкаў, вецер паўднёва-ўсходні, 3—8 м/сек. Тэмпература ўначы — 4—9, удзень — 16—21 градус вышэй нуля.

## МЕСЯЦ

**Поўня 6 верасня.**
**З 20.10 — 19-я месяцавыя суткі.**
**Месяц — у сузор'і Авена.**

***Наступны нумар «Звязды» выйдзе ў чацвер, 10 верасня.***

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*№ 427*

### АБ ЗАЦВЯРДЖЭННІ ПАЛАЖЭННЯ АБ ПАРАДКУ ПЕРАДАЧЫ ЗЯМЕЛЬНЫХ УЧАСТКАЎ ВА ЎЛАСНАСЦЬ ЮРЫДЫЧНЫХ АСОБ (ІХ УЛАСНІКАЎ) І ФОРМАЎ ДЗЯРЖАЎНЫХ АКТАЎ НА ПРАВА ЎЛАСНАСЦІ НА ЗЯМЛЮ ЮРЫДЫЧНАЙ АСОБЫ (ЯЕ ЎЛАСНІКА) І ЗАМЕЖНАЙ ДЗЯРЖАВЫ

Зацвердзіць прыкладаемыя:

Палажэнне аб парадку перадачы зямельных участкаў ва ўласнасць юрыдычных асоб (іх уласнікаў);

форму Дзяржаўнага акта на права ўласнасці на зямлю юрыдычнай асобы (яе ўласніка);

форму Дзяржаўнага акта на права ўласнасці на зямлю замежнай дзяржавы.

Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь забяспечыць выраб неабходнай колькасці бланкаў названых дзяржаўных актаў.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*2 верасня 1998 г., г. Мінск.*

*ЗАЦВЕРДЖАНА*
*Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 02.09.1998 № 427*

## ПАЛАЖЭННЕ

### АБ ПАРАДКУ ПЕРАДАЧЫ ЗЯМЕЛЬНЫХ УЧАСТКАЎ ВА ЎЛАСНАСЦЬ ЮРЫДЫЧНЫХ АСОБ (ІХ УЛАСНІКАЎ)

1. У гэтым Палажэнні рэгулюецца парадак перадачы зямельных участкаў з уласнасці Рэспублікі Беларусь ва ўласнасць юрыдычных асоб (іх уласнікаў), у тым ліку замежных (далей — юрыдычныя асобы (іх уласнікі).

2. Ва ўласнасць юрыдычных асоб (іх уласнікаў) могуць перадавацца зямельныя ўчасткі, прадастаўленыя:

для эксплуатацыі прыватызаваных аб'ектаў вытворчага прызначэння і аб'ектаў па аказанню паслуг;

для будаўніцтва і эксплуатацыі неабходных Рэспубліцы Беларусь прадпрыемстваў пры ажыццяўленні інвестыцыйных праектаў.

Перадача гэтых зямельных участкаў ажыццяўляецца за плату па рашэнню Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Ва ўласнасць юрыдычных асоб (іх уласнікаў) не перадаюцца землі сельскагаспадарчага прызначэння, а таксама зямельныя ўчасткі, якія з'яўляюцца аб'ектам зямельнай спрэчкі.

3. Сродкі ад продажу зямельных участкаў з уласнасці Рэспублікі Беларусь юрыдычным асобам (іх уласнікам) накіроўваюцца ў рэспубліканскі бюджэт і выкарыстоўваюцца на ахову зямель, павышэнне іх якасці, землеўпарадкаванне і сацыяльнае развіццё тэрыторый.

4. Юрыдычныя асобы (іх уласнікі), якім прадастаўлены ў карыстанне зямельныя ўчасткі, названыя ў пункце 2 гэтага Палажэння, і якія жадаюць набыць гэтыя зямельныя ўчасткі ва ўласнасць, падаюць хадайніцтвы ў раённыя (гарадскія) выканаўчыя і распарадчыя органы па месцы знаходжання зямельных участкаў.

Да хадайніцтва прыкладаюцца:

копія рашэння аб прадастаўленні зямельнага ўчастка ў пастаяннае або часовае карыстанне (па зямельнаму ўчастку, перададзенаму ў арэнду, — дагавор арэнды);

копія статута юрыдычнай асобы;

пасведчанне аб праве ўласнасці на прыватызаваны аб'ект вытворчага прызначэння або прыватызаваны аб'ект па аказанню паслуг;

Дзяржаўны акт на права пастаяннага карыстання зямлёй або пасведчанне на права часовага карыстання зямлёй;

дакументы, якія пацвярджаюць крыніцы фінансавання юрыдычнай асобы (яго ўласніка) на момант падачы хадайніцтва;

план размяшчэння будынкаў і збудаванняў на зямельным участку;

іншыя дакументы, неабходныя для вырашэння пытання аб перадачы зямельнага ўчастка ва ўласнасць.

5. Раённы (гарадскі) выканаўчы і распарадчы орган рэгіструе пададзенае юрыдычнай асобай (яго ўласнікам) хадайніцтва і стварае камісію для падрыхтоўкі матэрыялаў па перадачы зямельнага ўчастка ва ўласнасць (далей — камісія).

У састаў камісіі ўключаюцца работнікі землеўпарадкавальнай, фінансавай, камунальнай, архітэктурнай і горадабудаўнічай службаў раённага (гарадскога) выканаўчага і распарадчага органа і, па яго меркаванню, прадстаўнікі іншых службаў, а таксама прыродаахоўных органаў.

Камісія ў месячны тэрмін праводзіць абследаванне зямельнага ўчастка, які просяць ва ўласнасць, і па выніках работы складае акт, у якім указвае адпаведнасць межаў гэтага зямельнага ўчастка фактычным даным, якія змяшчаюцца ў Дзяржаўным акце на права пастаяннага карыстання зямлёй або ў пасведчанні на права часовага карыстання зямлёй, мэтавае выкарыстанне зямельнага ўчастка, выкананне землекарыстальнікам патрабаванняў зямельнага, прыродаахоўнага і іншага заканадаўства, прапановы па памеру платы за гэты зямельны ўчастак, і рыхтуе іншыя матэрыялы, неабходныя для перадачы зямельнага ўчастка ва ўласнасць.

Цана зямельнага ўчастка, адносна якога пададзена хадайніцтва, вызначаецца зыходзячы з якасці зямлі і месцазнаходжання ўчастка і павінна быць не ніжэйшай за нарматыўную цану на зямлю, устаноўленую заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Пры неабходнасці камісія ўзгадняе матэрыялы па перадачы зямельнага ўчастка ва ўласнасць юрыдычнай асобы (яе ўласніка) з адпаведным сельскім (пасялковым) выканаўчым і распарадчым органам або адміністрацыяй свабоднай эканамічнай зоны.

6. Раённы (гарадскі) выканаўчы і распарадчы орган у месячны тэрмін разглядае прадстаўленыя камісіяй матэрыялы і разам са сваім заключэннем накіроўвае гэтыя матэрыялы, аглядную схему размяшчэння зямельнага ўчастка і дакументы, пералічаныя ў пункце 4 гэтага Палажэння, адпаведнаму аблвыканкаму, Мінскі гарвыканкам — Дзяржаўнаму камітэту па зямельных рэсурсах, геадэзіі і картаграфіі, а ў выпадку выяўлення парушэнняў землекарыстальнікам зямельнага, прыродаахоўнага і іншага заканадаўства вяртае юрыдычнай асобе (яе ўласніку) прадстаўленыя ім дакументы і абавязвае ліквідаваць гэтыя парушэнні. Пасля іх ліквідацыі пытанне аб перадачы зямельнага ўчастка ва ўласнасць разглядаецца ў парадку, устаноўленым гэтым Палажэннем, на падставе паўторнага хадайніцтва юрыдычнай асобы (яе ўласніка), якое падаецца з выкананнем патрабаванняў, прадугледжаных пунктам 4 гэтага Палажэння.

7. Аблвыканкам у месячны тэрмін разглядае матэрыялы па перадачы зямельнага ўчастка ва ўласнасць юрыдычнай асобы (яе ўласніка), прадстаўленыя раённым (гарадскім) выканаўчым і распарадчым органам, і разам са сваім заключэннем накіроўвае іх Дзяржаўнаму камітэту па зямельных рэсурсах, геадэзіі і картаграфіі.

8. Дзяржаўны камітэт па зямельных рэсурсах, геадэзіі і картаграфіі ў двухтыднёвы тэрмін разглядае матэрыялы па перадачы зямельнага ўчастка ва ўласнасць юрыдычнай асобы (яе ўласніка), унесеныя аблвыканкамам (Мінскім гарвыканкамам), і рыхтуе па іх прапановы, якія прадстаўляе ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь у парадку, вызначаным заканадаўствам.

9. Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь у месячны тэрмін разглядае матэрыялы па перадачы зямельнага ўчастка ва ўласнасць юрыдычнай асобы (яе ўласніка), прадстаўленыя Дзяржаўным камітэтам па зямельных рэсурсах, геадэзіі і картаграфіі, і ва ўстаноўленым парадку ўносіць іх на разгляд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

10. Плата за зямельны ўчастак, што перадаецца ва ўласнасць юрыдычнай асобы (яе ўласніка) Рэспублікі Беларусь, уносіцца ім у нацыянальнай валюце Рэспублікі Беларусь на транзітны рахунак інспекцыі Дзяржаўнага падатковага камітэта па месцы рэгістрацыі юрыдычнай асобы або ў замежнай валюце — на валютны рахунак Міністэрства фінансаў, а плата за зямельны ўчастак, перададзены ва ўласнасць замежнай юрыдычнай асобы (яго ўласніка), — толькі ў замежнай валюце на названы валютны рахунак не пазней за месячны тэрмін з дня ўступлення ў сілу рашэння Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб перадачы зямельнага ўчастка ва ўласнасць.

Пры неўнясенні юрыдычнай асобай (яе ўласнікам) у гэты тэрмін платы за зямельны ўчастак у поўным аб'ёме Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прадстаўляе ва ўстаноўленым парадку Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь прапанову аб адмене рашэння аб перадачы зямельнага ўчастка ва ўласнасць.

11. Права ўласнасці на зямлю юрыдычнай асобы (яе ўласніка) засведчваецца адпаведным раённым (гарадскім) выканаўчым і распарадчым органам, аб чым робіцца запіс у зямельна-кадастравых дакументах, з наступнай выдачай яму гэтым органам Дзяржаўнага акта на права ўласнасці на зямлю ўстаноўленай формы.

Дзяржаўны акт на права ўласнасці на зямлю выдаецца толькі пасля прадстаўлення юрыдычнай асобай (яе ўласнікам) дакумента, што пацвярджае ўнясенне платы за зямельны ўчастак, які перадаецца яму ва ўласнасць.

Права ўласнасці на зямельны ўчастак узнікае ў юрыдычнай асобы (яе ўласніка) з моманту атрымання Дзяржаўнага акта на права ўласнасці на зямлю.

## ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

### АБ УНЯСЕННІ ЗМЯНЕННЯЎ У ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «АБ СУДАЎЛАДКАВАННІ І СТАТУСЕ СУДДЗЯЎ У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ»

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 18 чэрвеня 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 29 чэрвеня 1998 года*

**Артыкул 1.** Унесці ў Закон Рэспублікі Беларусь ад 13 студзеня 1995 года «Аб судаўладкаванні і статусе суддзяў у Рэспубліцы Беларусь» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1995 г., № 11, арт. 120) наступныя змяненні:

1. Артыкулы 70 і 71 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

**«Артыкул 70. Кваліфікацыйныя калегіі суддзяў**

Кваліфікацыйныя калегіі суддзяў судоў Рэспублікі Беларусь (далей — кваліфікацыйныя калегіі суддзяў) утвараюцца ў мэтах падтрымання высокіх прафесійных і маральных стандартаў суддзяў, узмацнення гарантый іх незалежнасці і высокага прэстыжу судзейскай працы.

У Рэспубліцы Беларусь ствараюцца кваліфікацыйныя калегіі:

суддзяў Вярхоўнага Суда;

суддзяў абласных (Мінскага гарадскога), раённых (гарадскіх) судоў (далей — кваліфікацыйныя калегіі суддзяў абласцей (г. Мінска);

суддзяў Беларускага ваеннага суда і міжгарнізонных ваенных судоў (далей — кваліфікацыйная калегія суддзяў ваенных судоў);

суддзяў гаспадарчых судоў.

Кваліфікацыйная калегія суддзяў Вярхоўнага Суда выбіраецца на Пленуме Вярхоўнага Суда з ліку яго членаў.

Кваліфікацыйныя калегіі суддзяў абласцей (г. Мінска) і суддзяў ваенных судоў выбіраюцца на канферэнцыях суддзяў адпаведных судоў з ліку суддзяў гэтых судоў.

Кваліфікацыйная калегія суддзяў гаспадарчых судоў выбіраецца на Пленуме Вышэйшага Гаспадарчага Суда з ліку суддзяў гаспадарчых судоў.

Колькасны склад кваліфікацыйных калегій суддзяў, норма прадстаўніцтва ў іх суддзяў ніжэйстаячых судоў, а таксама парадак галасавання вызначаюцца адпаведнымі пленумамі судоў і канферэнцыямі суддзяў па ўзгадненню з Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь.

У склад кваліфікацыйных калегій суддзяў з правам рашаючага голасу ўключаюцца прадстаўнікі адпаведных органаў юстыцыі ў парадку, які вызначаецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

Кваліфікацыйныя калегіі суддзяў фарміруюцца тэрмінам на тры гады і робяць справаздачы перад адпаведнымі пленумамі судоў і канферэнцыямі суддзяў не радзей аднаго разу ў год, а таксама пасля заканчэння паўнамоцтваў.

Арганізацыя дзейнасці кваліфікацыйных калегій суддзяў, а таксама парадак выбрання іх складу вызначаюцца Палажэннем аб кваліфікацыйных калегіях суддзяў судоў Рэспублікі Беларусь, якое зацвярджаецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 71. Паўнамоцтвы кваліфікацыйных калегій суддзяў**

Кваліфікацыйная калегія суддзяў:

1) зацвярджае персанальны склад экзаменацыйнай камісіі па прыёму кваліфікацыйнага экзамену ў асоб, якія прэтэндуюць на пасаду суддзяў:

абласных (Мінскага гарадскога), раённых (гарадскіх) судоў — па прадстаўленню кіраўніка органа юстыцыі і старшыні адпаведнага суда;

ваенных судоў — па прадстаўленню Міністра юстыцыі Рэспублікі Беларусь і Старшыні Беларускага ваеннага суда;

гаспадарчых судоў — па прадстаўленню Міністра юстыцыі Рэспублікі Беларусь і Старшыні Вышэйшага Гаспадарчага Суда;

2) сумесна са старшынямі адпаведных судоў вызначае парадак падрыхтоўкі і правядзення кваліфікацыйных экзаменаў;

3) разглядае заявы асоб, якія прэтэндуюць на пасады суддзяў, і з улікам вынікаў кваліфікацыйнага экзамену дае заключэнне аб рэкамендацыі іх на гэтыя пасады ці адмове ў ёй;

4) накіроўвае старшыні адпаведнага суда заключэнні:

аб магчымасці назначэння асоб на пасаду суддзі;

аб магчымасці назначэння асоб на пасады старшыні або намесніка старшыні суда (акрамя Старшыні Вярхоўнага Суда і Старшыні Вышэйшага Гаспадарчага суда), а таксама аб вызваленні іх ад гэтых пасад;

аб магчымасці прыпынення або спынення паўнамоцтваў суддзі;

5) праводзіць кваліфікацыйную атэстацыю суддзяў і прымае рашэнне аб прысваенні ім кваліфікацыйных класаў;

6) разглядае пытанні аб дысцыплінарнай адказнасці суддзяў;

7) выступае ў абарону гонару, годнасці, правоў і законных інтарэсаў суддзяў;

8) дае заключэнні па пытаннях, звязаных з узбуджэннем крымінальнай справы ў адносінах да суддзі, прыцягненнем яго да крымінальнай адказнасці, вызваленнем ад пасады, прыпыненнем паўнамоцтваў суддзі, прызнаннем яго суддзёй, які знаходзіцца ў адстаўцы па падставах, прадугледжаных заканадаўствам;

9) разглядае скаргі і прадстаўленні на дзеянні суддзі, якія прыніжаюць аўтарытэт судовай улады, ці на яго бяздзейнасць;

10) дае заключэнні па пытаннях прадстаўлення суддзяў да дзяржаўных узнагарод і прысваення ім ганаровых званняў Рэспублікі Беларусь;

11) ажыццяўляе іншыя паўнамоцтвы, прадугледжаныя заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Кваліфікацыйная калегія суддзяў Вярхоўнага Суда:

1) ажыццяўляе паўнамоцтвы, прадугледжаныя пунктамі 4—11 часткі першай гэтага артыкула ў адносінах да:

суддзяў Вярхоўнага Суда;

суддзяў, якія ўваходзяць у склад кваліфікацыйных калегій суддзяў абласцей (г.Мінска) і ваенных судоў;

старшынь і намеснікаў старшынь абласных (Мінскага гарадскога) і Беларускага ваеннага судоў;

2) разглядае скаргі і прадстаўленні на рашэнні кваліфікацыйных калегій суддзяў абласцей (г.Мінска) і ваенных судоў.

Заключэнні і рашэнні кваліфікацыйнай калегіі суддзяў па пытаннях назначэння асоб на пасады суддзі, старшыні, намесніка старшыні суда, прадстаўлення суддзі да дзяржаўнай узнагароды або прысваення ганаровага звання, прысваення ім кваліфікацыйнага класа абскарджанню не падлягаюць.

Рашэнні і заключэнні кваліфікацыйных калегій суддзяў абласцей (г.Мінска) і ваенных судоў па іншых пытаннях могуць быць абскарджаны ў кваліфікацыйную калегію суддзяў Вярхоўнага Суда, рашэнне якой з'яўляецца канчатковым.

Рашэнні і заключэнні кваліфікацыйнай калегіі суддзяў Вярхоўнага Суда, якія прымаюцца ў адносінах да асоб, пералічаных у пункце 1 часткі другой гэтага артыкула, і кваліфікацыйнай калегіі суддзяў гаспадарчых судоў могуць быць абскарджаны адпаведна ў Пленум Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь і Пленум Вышэйшага Гаспадарчага Суда Рэспублікі Беларусь».

2. Артыкул 73 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

**«Артыкул 73. Дысцыплінарная адказнасць суддзяў**

Падставы і парадак прыцягнення суддзяў да дысцыплінарнай адказнасці вызначаюцца Палажэннем аб дысцыплінарнай адказнасці суддзяў судоў Рэспублікі Беларусь, якое зацвярджаецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь».

**Артыкул 2.** Гэты Закон уступае ў сілу з дня апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*15 ліпеня 1998 г., г. Мінск. , № 189-3*

## ЗАКОНЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

### АБ УНЯСЕННІ ЗМЯНЕННЯ Ў ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «АБ БЮДЖЭЦЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ НА 1998 ГОД»

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 10 чэрвеня 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 24 чэрвеня 1998 года*

**Артыкул 1.** У артыкуле 8 Закона Рэспублікі Беларусь ад 29 снежня 1997 года «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1998 год» (Ведамасці Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, 1998 г., № 1, арт. 2) словы «паступленні ад продажу драўніны на аўкцыёнах або іншымі рыначнымі спосабамі» выключыць.

**Артыкул 2.** Гэты Закон уступае ў сілу з дня яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА**

*30 чэрвеня 1998 г., г.Мінск., № 173-3*

### АБ РАТЫФІКАЦЫІ ПАГАДНЕННЯ ПАМІЖ УРАДАМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ І УРАДАМ РЭСПУБЛІКІ ПОЛЬШЧА АБ СУПРАЦОЎНІЦТВЕ І ЎЗАЕМНАЙ ДАПАМОЗЕ Ў МЫТНЫХ СПРАВАХ

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 18 чэрвеня 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 24 чэрвеня 1998 года*

Ратыфікаваць Пагадненне паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Урадам Рэспублікі Польшча аб супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе ў мытных справах, падпісанае ў г.Варшаве 27 лістапада 1995 года.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА**

*30 чэрвеня 1998 г., г.Мінск., № 175-3*

### АБ УНЯСЕННІ ЗМЯНЕННЯ Ў ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «АБ ВЕТЭРЫНАРНАЙ СПРАВЕ»

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 19 чэрвеня 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 29 чэрвеня 1998 года*

**Артыкул 1.** Артыкул 27 Закона Рэспублікі Беларусь ад 2 снежня 1994 года «Аб ветэрынарнай справе» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1995 г., № 4, арт. 11) выкласці ў наступнай рэдакцыі:

**«Артыкул 27. Падрыхтоўка ветэрынарных кадраў**

Падрыхтоўка ветэрынарных урачоў і ветэрынарных фельчараў праводзіцца па дзённай форме навучання ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам. Дапускаецца падрыхтоўка па завочнай форме навучання ветэрынарных урачоў толькі з ліку выпускнікоў ветэрынарных аддзяленняў сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў».

**Артыкул 2.** Гэты Закон уступае ў сілу з дня яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА**

*7 ліпеня 1998 г., г.Мінск.,№ 177-3*

### АБ ЗАЦВЯРДЖЭННІ СПРАВАЗДАЧЫ АБ ВЫКАНАННІ РЭСПУБЛІКАНСКАГА БЮДЖЭТУ ЗА 1997 ГОД

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 18 чэрвеня 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 30 чэрвеня 1998 года*

Зацвердзіць справаздачу аб выкананні рэспубліканскага бюджэту за 1997 год па даходах у суме 66 963 987,9 млн. рублёў і па расходах у суме 76 217 645,3 млн. рублёў з перавышэннем расходаў над даходамі ў суме 9 253 657,4 млн.рублёў.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА**

*8 ліпеня 1998 г., г.Мінск., № 180-3*

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*№ 420*

### АБ УНЯСЕННІ ЗМЯНЕННЯЎ ВА УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АД 11 СТУДЗЕНЯ 1997 г. № 30

1. Дапоўніць Пералік аб'яднанняў (устаноў), падпарадкаваных Ураду Рэспублікі Беларусь, прыкладаемы да Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 11 студзеня 1997 г. № 30 «Аб сістэме рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, падпарадкаваных Ураду Рэспублікі Беларусь» (Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1997 г., № 1, арт. 28; № 15, арт. 535; № 20, арт. 693), пасля абзаца пятага абзацам наступнага зместу:

«Беларускі дзяржаўны навукова-вытворчы канцэрн міжгаліновага машына- і прыборабудавання «Белмашпрыбор» (канцэрн «Белмашпрыбор»).

2. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*31 жніўня 1998 г., г. Мінск.*

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*№ 428*

### АБ НАЗНАЧЭННІ А. Л. КРАСАЧКІ НАМЕСНІКАМ СТАРШЫНІ ДЗЯРЖАЎНАГА КАМІТЭТА ФІНАНСАВЫХ РАССЛЕДАВАННЯЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Назначыць **Красачку** Аляксандра Леанідавіча намеснікам Старшыні Дзяржаўнага камітэта фінансавых расследаванняў Рэспублікі Беларусь.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*2 верасня 1998 г., г. Мінск.*

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*№ 433*

### АБ ПАДПІСАННІ МЕМАРАНДУМА АБ СУПРАЦОЎНІЦТВЕ ПАМІЖ РЭСПУБЛІКАЙ БЕЛАРУСЬ І АРГАНІЗАЦЫЯЙ АБ'ЯДНАНЫХ НАЦЫЙ ПА ПЫТАННЯХ АДУКАЦЫІ, НАВУКІ І КУЛЬТУРЫ (ЮНЕСКО)

Прыняць прапанову Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь аб падпісанні Мемарандума аб супрацоўніцтве паміж Рэспублікай Беларусь і Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры (ЮНЕСКО).

Упаўнаважыць міністра замежных спраў Антановіча Івана Іванавіча на падпісанне гэтага Мемарандума.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*3 верасня 1998 г., г. Мінск.*

## ВА ЎКЛАДЧЫКАЎ «БЕЛАРУСБАНКА» НЯМА ПАДСТАЎ ДЛЯ ТРЫВОГІ

**У сувязі з крызіснай сітуацыяй у фінансава-банкаўскай сферы Расіі шматлікія ўкладчыкі ААБ «Беларусбанк» звяртаюцца з пытаннем, як ім быць з укладамі.**

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў прэс-службе гэтай буйнейшай фінансавай установы краіны, цяпер ва ўкладчыкаў падстаў для трывогі наконт гэтага няма.

Установы ААБ «Беларусбанк» па-ранейшаму прымаюць уклады ад насельніцтва ў замежнай валюце без абмежаванняў сумы ўкладу з выплатай працэнтаў штомесячна або ў канцы тэрміну захоўвання ўкладу ў валюце. Вяртанне ўкладзеных сродкаў гарантуецца дзяржавай у адпаведнасці з Дэкрэтам прэзідэнта краіны «Аб гарантыях захаванасці сродкаў фізічных асоб у замежнай валюце, якія знаходзяцца на рахунках і ва ўкладах у банках Рэспублікі Беларусь».

Як адзначыў дырэктар дэпартамента арганізацыі і аналізу ўкладных і разліковых аперацый гэтага банка Ігар Рудый, пасля ўступлення ў сілу гэтага дэкрэта з 21 красавіка да 1 верасня 1998 года астатак укладаў у доларах ЗША ўзрос на 14,9 мільёна долараў, або на 35,9 працэнта.

Прырост астатку ўкладаў за жнівень гэтага года склаў 720,3 мільярда рублёў, у тым ліку па рублёвых укладах — 105,5 мільярда рублёў і па валютных укладах — 2 мільёны 891 тысячу долараў ЗША. Астатак укладаў на аднаго жыхара ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года павялічыўся больш чым у два разы. Па валютных укладах астатак вырас у 1,6 раза.

ААБ «Беларусбанк» гарантуе захаванасць грашовых зберажэнняў насельніцтва. Ён мае неабходныя валютныя рэсурсы і наяўную валюту для вяртання ўкладаў па першаму патрабаванню ўкладчыкаў.

**БЕЛТА.**

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
# АБ БЮДЖЭТНАЙ КЛАСІФІКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 8 красавіка 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 17 красавіка 1998 года*

**Гэты Закон устанаўлівае асновы прававога рэгулявання адносін, якія ўзнікаюць у працэсе складання, зацвярджэння і выканання рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў, дзяржаўных пазабюджэтных і бюджэтных мэтавых фондаў, пазабюджэтных сродкаў бюджэтных устаноў і арганізацый.**

**Артыкул 1.** Бюджэтная класіфікацыя Рэспублікі Беларусь (далей — бюджэтная класіфікацыя) з'яўляецца сістэматызаванай групоўкай даходаў, расходаў і крыніц фінансавання дэфіцыту рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў, дзяржаўных пазабюджэтных і бюджэтных мэтавых фондаў, пазабюджэтных сродкаў бюджэтных устаноў і арганізацый з прысваеннем аб'ектам класіфікацыі групаваных кодаў, заснаванай на іх эканамічнай характарыстыцы, і забяспечвае рэспубліканскую і міжнародную супастаўнасць паказчыкаў бюджэтаў, неабходную для адпаведнага аналізу бюджэтна-фінансавай палітыкі дзяржавы.

Бюджэтная класіфікацыя з'яўляецца адзінай і выкарыстоўваецца пры складанні, зацвярджэнні і выкананні рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў, дзяржаўных пазабюджэтных і бюджэтных мэтавых фондаў, пазабюджэтных сродкаў бюджэтных устаноў і арганізацый.

Бюджэтная класіфікацыя ўключае:

класіфікацыю даходаў;

класіфікацыю расходаў, якая ўключае функцыянальную, эканамічную (прадметную) і ведамасную класіфікацыю расходаў;

класіфікацыю крыніц унутранага фінансавання дэфіцыту рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў;

класіфікацыю крыніц знешняга фінансавання дэфіцыту рэспубліканскага бюджэту;

класіфікацыю відаў унутранага дзяржаўнага доўгу Рэспублікі Беларусь;

класіфікацыю відаў знешняга дзяржаўнага доўгу Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 2.** Класіфікацыя даходаў з'яўляецца сістэматызаванай групоўкай даходаў рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў, дзяржаўных пазабюджэтных і бюджэтных мэтавых фондаў, пазабюджэтных сродкаў бюджэтных устаноў і арганізацый і грунтуецца на актах заканадаўства Рэспублікі Беларусь, якія вызначаюць крыніцы іх фарміравання.

Даходы падзяляюцца на наступныя катэгорыі: бягучыя, капітальныя і бязвыплатныя, якія складаюцца з груп даходаў. Групы даходаў складаюцца з відаў даходаў. Даходы па відах аб'ядноўваюцца ў раздзелы і падраздзелы даходаў у залежнасці ад крыніц іх атрымання.

**Артыкул 3.** Функцыянальная класіфікацыя расходаў складаецца з двух узроўняў і з'яўляецца групоўкай расходаў рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў, дзяржаўных пазабюджэтных і бюджэтных мэтавых фондаў, пазабюджэтных сродкаў бюджэтных устаноў і арганізацый, якая адлюстроўвае напрамкі выдзялення сродкаў на выкананне асноўных функцый дзяржавы.

Першым узроўнем указанай класіфікацыі з'яўляюцца раздзелы, якія складаюцца з падраздзелаў, што ўтвараюць яе другі ўзровень і канкрэтызуюць накіраванне сродкаў на ажыццяўленне дзейнасці дзяржавы ў пэўнай галіне.

**Артыкул 4.** Ведамасная класіфікацыя расходаў рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў з'яўляецца групоўкай расходаў, якая адлюстроўвае размеркаванне бюджэтных асігнаванняў па прамых атрымальніках сродкаў з адпаведнага бюджэту па пэўных раздзелах і падраздзелах функцыянальнай класіфікацыі расходаў.

**Артыкул 5.** Эканамічная (прадметная) класіфікацыя расходаў з'яўляецца групоўкай расходаў рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў, дзяржаўных пазабюджэтных і бюджэтных мэтавых фондаў, пазабюджэтных сродкаў бюджэтных устаноў і арганізацый па іх эканамічнаму зместу.

**Артыкул 6.** Класіфікацыя крыніц унутранага фінансавання дэфіцыту рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў з'яўляецца групоўкай пазыковых сродкаў, якія прыцягваюцца Урадам Рэспублікі Беларусь, мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі для фінансавання дэфіцыту адпаведнага бюджэту.

**Артыкул 7.** Класіфікацыя крыніц знешняга фінансавання дэфіцыту рэспубліканскага бюджэту з'яўляецца групоўкай пазыковых сродкаў, якія прыцягваюцца Урадам Рэспублікі Беларусь для фінансавання дэфіцыту рэспубліканскага бюджэту.

**Артыкул 8.** Класіфікацыя відаў унутранага дзяржаўнага доўгу Рэспублікі Беларусь з'яўляецца групоўкай дзяржаўных пазыковых абавязацельстваў Урада Рэспублікі Беларусь перад юрыдычнымі і фізічнымі асобамі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 9.** Класіфікацыя відаў знешняга дзяржаўнага доўгу Рэспублікі Беларусь з'яўляецца групоўкай дзяржаўных знешніх пазыковых абавязацельстваў Урада Рэспублікі Беларусь, прынятых у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 10.** Зацвердзіць функцыянальную класіфікацыю расходаў Рэспублікі Беларусь (дадатак 1), класіфікацыю крыніц унутранага фінансавання дэфіцыту рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў Рэспублікі Беларусь (дадатак 2), класіфікацыю крыніц знешняга фінансавання дэфіцыту рэспубліканскага бюджэту Рэспублікі Беларусь (дадатак 3).

Класіфікацыя даходаў, эканамічная (прадметная) класіфікацыя расходаў, класіфікацыя відаў унутранага дзяржаўнага доўгу Рэспублікі Беларусь, класіфікацыя відаў знешняга дзяржаўнага доўгу Рэспублікі Беларусь зацвярджаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь або па яго даручэнню Міністэрствам фінансаў Рэспублікі Беларусь.

Ведамасная класіфікацыя расходаў рэспубліканскага бюджэту, а таксама ўказанні па прымяненню класіфікацыі даходаў, функцыянальнай і эканамічнай (прадметнай) класіфікацыі расходаў рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў зацвярджаюцца Міністэрствам фінансаў Рэспублікі Беларусь.

Ведамасная класіфікацыя расходаў мясцовых бюджэтаў зацвярджаецца адпаведнымі мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі ў прымяненні да ведамаснай класіфікацыі расходаў рэспубліканскага бюджэту.

Ведамасная класіфікацыя расходаў па групах устаноў зацвярджаецца адпаведнымі міністэрствамі, іншымі рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання па ўзгадненню з Міністэрствам фінансаў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 11.** Законы, якія рэгулююць адносіны, не звязаныя непасрэдна з вызначэннем складу і структуры бюджэтнай класіфікацыі, не павінны змяшчаць палажэнняў, што змяняюць яе.

Змяненні ў гэты Закон пры неабходнасці ўносяцца да прыняцця закона аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на чарговы фінансавы (бюджэтны) год.

**Артыкул 12.** Гэты Закон уступае ў сілу з дня апублікавання.

Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняць неабходныя меры па забеспячэнню рэалізацыі палажэнняў гэтага Закона.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**

5 мая 1998 г., г. Мінск.
№ 158-3

Дадатак 1 да Закона Рэспублікі Беларусь
«Аб бюджэтнай класіфікацыі Рэспублікі Беларусь»

## Функцыянальная класіфікацыя расходаў Рэспублікі Беларусь

| Код | Назва раздзелаў і падраздзелаў расходаў |
|---|---|
| 2.0100 | Дзяржаўнае кіраванне і мясцовае самакіраванне |
| 2.0101 | Функцыянаванне прадстаўнічага і заканадаўчага органа Рэспублікі Беларусь |
| 2.0102 | Функцыянаванне органаў дзяржаўнага кіравання і іншых органаў выканаўчай улады |
| 2.0103 | Функцыянаванне органаў мясцовага самакіравання |
| 2.0104 | Дзейнасць фінансавых і падатковых органаў |
| 2.0105 | Іншыя расходы на дзяржаўнае кіраванне |
| 2.0200 | Міжнародная дзейнасць |
| 2.0201 | Адкрыццё і ўтрыманне дыпламатычных прадстаўніцтваў і консульскіх устаноў Рэспублікі Беларусь за мяжой |
| 2.0202 | Міжнароднае супрацоўніцтва |
| 2.0203 | Міжнародныя культурныя і інфармацыйныя сувязі |
| 2.0204 | Расходы на фінансаванне апаратаў статутных органаў міждзяржаўнай інтэграцыі |
| 2.0205 | Іншыя расходы, не аднесеныя да іншых катэгорый |
| 2.0206 | Адлічэнні ў бюджэт Саюза Беларусі і Расіі |
| 2.0300 | Нацыянальная абарона |
| 2.0301 | Арганізацыя і дзейнасць, звязаныя з ваеннымі патрэбамі |
| 2.0302 | Дзяржаўны цэнтр бяспекі інфармацыі |
| 2.0303 | Чыгуначныя войскі |
| 2.0304 | Органы ваенных камісарыятаў |
| 2.0305 | Абароннае спартыўна-тэхнічнае таварыства |
| 2.0306 | Падтрыманне мабілізацыйных магутнасцей, забеспячэнне мабілізацыйнай падрыхтоўкі |
| 2.0400 | Праваахоўная дзейнасць і забеспячэнне бяспекі |
| 2.0401 | Органы ўнутраных спраў |
| 2.0402 | Унутраныя войскі |
| 2.0403 | Пагранічныя войскі |
| 2.0404 | Крымінальна-выканаўчая сістэма |
| 2.0405 | Органы дзяржаўнай бяспекі |
| 2.0406 | Натарыяльныя канторы |
| 2.0407 | Органы пракуратуры |
| 2.0408 | Мытныя органы |
| 2.0409 | Галоўнае ўпраўленне ваенізаванай пажарнай службы |
| 2.0500 | Судовая ўлада |
| 2.0501 | Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь |
| 2.0502 | Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь |
| 2.0503 | Вышэйшы Гаспадарчы Суд Рэспублікі Беларусь і іншыя суды, якія дзейнічаюць у сферы гаспадарчых адносін |
| 2.0504 | Іншыя судовыя органы |
| 2.0600 | Навука |
| 2.0601 | Фундаментальныя даследаванні, навукова-тэхнічныя праграмы і праекты |
| 2.0602 | Міжнароднае навукова-тэхнічнае супрацоўніцтва |
| 2.0603 | Падрыхтоўка кадраў вышэйшай навуковай кваліфікацыі і атэстацыя навуковых кадраў |
| 2.0604 | Дзяржаўныя архіўныя ўстановы |
| 2.0605 | Іншыя расходы ў галіне навукі |
| 2.0700 | Прамысловасць, энергетыка і будаўнічы комплекс |
| 2.0701 | Паліўна-энергетычны комплекс |
| 2.0702 | Прамысловасць |
| 2.0703 | Будаўніцтва, архітэктура і горадабудаўніцтва |
| 2.0704 | Жыллёвае будаўніцтва |
| 2.0800 | Сельская гаспадарка |
| 2.0801 | Сельскагаспадарчая вытворчасць |
| 2.0802 | Бюджэтныя арганізацыі сельскай гаспадаркі |
| 2.0803 | Дзяржаўныя комплексныя праграмы па развіццю аграпрамысловага комплексу і забеспячэнню аграрнай рэформы |
| 2.0804 | Сялянскія (фермерскія) гаспадаркі |
| 2.0805 | Іншыя мерапрыемствы ў галіне сельскай гаспадаркі |
| 2.0900 | Ахова навакольнага асяроддзя і прыродных рэсурсаў, гідраметэаралогія, картаграфія і геадэзія |
| 2.0901 | Лясныя рэсурсы |
| 2.0902 | Ахова навакольнага асяроддзя, жывёльнага і расліннага свету |
| 2.0903 | Гідраметэаралогія |
| 2.0904 | Зямельныя рэсурсы, картаграфія і геадэзія |
| 2.0905 | Іншыя расходы ў галіне аховы навакольнага асяроддзя і прыродных рэсурсаў |
| 2.1000 | Транспарт, дарожная гаспадарка і сувязь |
| 2.1001 | Аўтамабільны транспарт |
| 2.1002 | Чыгуначны транспарт |
| 2.1003 | Паветраны транспарт |
| 2.1004 | Іншыя віды транспарту |
| 2.1005 | Дарожная гаспадарка |
| 2.1006 | Сувязь |
| 2.1100 | Развіццё рыначнай інфраструктуры |
| 2.1101 | Малы бізнес і прадпрымальніцтва |
| 2.1102 | Іншыя мерапрыемствы па развіццю рыначнай інфраструктуры |
| 2.1200 | Жыллёва-камунальная гаспадарка |
| 2.1201 | Жыллёвая гаспадарка |
| 2.1202 | Камунальная гаспадарка |
| 2.1203 | Добраўпарадкаванне гарадоў, райцэнтраў, пасёлкаў гарадскога тыпу і іншых населеных пунктаў |
| 2.1204 | Іншыя расходы ў галіне жыллёва-камунальнай гаспадаркі |
| 2.1300 | Папярэджанне і ліквідацыя вынікаў надзвычайных сітуацый і стыхійных бедстваў |
| 2.1301 | Дзяржаўныя праграмы па ліквідацыі вынікаў аварый і іншых катастроф |
| 2.1302 | Выплаты льгот і кампенсацый |
| 2.1303 | Фонд фінансавання расходаў, звязаных са стыхійнымі бедствамі, аварыямі, катастрофамі |
| 2.1304 | Папярэджанне і ліквідацыя вынікаў надзвычайных сітуацый |
| 2.1305 | Пакрыццё страт ад стыхійных бедстваў |
| 2.1400 | Адукацыя |
| 2.1401 | Дашкольная адукацыя |
| 2.1402 | Агульная адукацыя |
| 2.1403 | Навучальна-выхаваўчыя ўстановы спецыяльнага прызначэння |
| 2.1404 | Прафесійна-тэхнічная адукацыя |
| 2.1405 | Сярэдняя спецыяльная адукацыя |
| 2.1406 | Вышэйшая адукацыя |
| 2.1407 | Павышэнне кваліфікацыі і перападрыхтоўка кадраў |
| 2.1408 | Пазашкольная адукацыя |
| 2.1409 | Іншыя расходы ў галіне адукацыі |
| 2.1500 | Культура і мастацтва, кінематаграфія |
| 2.1501 | Культура і мастацтва |
| 2.1502 | Кінематаграфія |
| 2.1503 | Іншыя мерапрыемствы ў галіне культуры і мастацтва |
| 2.1600 | Сродкі масавай інфармацыі |
| 2.1601 | Тэлебачанне і радыёвяшчанне |
| 2.1602 | Перыядычны друк і выдавецтвы |
| 2.1603 | Іншыя ўстановы і мерапрыемствы ў галіне масавай інфармацыі |
| 2.1700 | Ахова здароўя і фізічная культура |
| 2.1701 | Ахова здароўя |
| 2.1702 | Санітарна-эпідэміялагічны нагляд |
| 2.1703 | Медыцынскія даследаванні |
| 2.1704 | Фізічная культура і спорт |
| 2.1705 | Абавязковае медыцынскае страхаванне непрацуючага насельніцтва |
| 2.1706 | Іншыя ўстановы і мерапрыемствы ў галіне аховы здароўя |
| 2.1800 | Сацыяльная палітыка |
| 2.1801 | Установы сацыяльнага забеспячэння |
| 2.1802 | Сацыяльная дапамога |
| 2.1803 | Пенсіі і дапамогі ваеннаслужачым |
| 2.1804 | Пенсіі і дапамогі ў органах пракуратуры |
| 2.1805 | Пенсіі і дапамогі ў іншых праваахоўных органах |
| 2.1807 | Пенсіі і дапамогі ў органах дзяржаўнай бяспекі |
| 2.1808 | Спецыяльныя сацыяльныя праграмы і мерапрыемствы |
| 2.1809 | Дапамогі грамадзянам і сем'ям, якія маюць дзяцей |
| 2.1810 | Іншыя мерапрыемствы ў галіне сацыяльнай палітыкі |
| 2.1900 | Абслугоўванне дзяржаўнага доўгу |
| 2.1901 | Абслугоўванне ўнутранага дзяржаўнага доўгу |
| 2.1902 | Выпуск і абслугоўванне дзяржаўных кароткатэрміновых аблігацый |
| 2.1903 | Расходы па рэалізацыі каштоўных папер |
| 2.1904 | Абслугоўванне знешняга дзяржаўнага доўгу |
| 2.2000 | Папаўненне дзяржаўных запасаў і рэзерваў |
| 2.2001 | Дзяржаўныя запасы каштоўных металаў і каштоўных камянёў |
| 2.2002 | Дзяржаўныя матэрыяльныя рэзервы |
| 2.3000 | Іншыя расходы |
| 2.3001 | Рэзервовы фонд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь |
| 2.3002 | Рэзервовы фонд мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў |
| 2.3003 | Іншыя рэзервовыя фонды |
| 2.3004 | Правядзенне выбараў і рэферэндумаў |
| 2.3005 | Фінансавая дапамога бюджэтам іншых узроўняў |
| 2.3006 | Бюджэтныя пазыкі, дэпазіты, паявыя ўзносы |
| 2.3007 | Расходы свабодных эканамічных зон |
| 2.3008 | Іншыя расходы, не аднесеныя да іншых падраздзелаў |
| 2.3100 | Расходы дзяржаўных пазабюджэтных і бюджэтных мэтавых фондаў |
| 2.3101 | Рэспубліканскі фонд падтрымкі вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі і харчавання |
| 2.3102 | Рэспубліканскі фонд «Энергазберажэнне» |
| 2.3103 | Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь |
| 2.3104 | Дзяржаўны фонд садзейнічання занятасці |
| 2.3105 | Фонды мясцовых Саветаў дэпутатаў для фінансавання расходаў на ўтрыманне ведамаснага жыллёвага фонду |
| 2.3106 | Пазабюджэтныя фонды мясцовых Саветаў дэпутатаў |
| 2.3107 | Фонд падтрымкі ведамасных дашкольных устаноў |
| 2.3108 | Дарожны фонд |
| 2.3109 | Фонд аховы прыроды |
| 2.3110 | Інавацыйныя фонды міністэрстваў, іншых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, органаў гаспадарчага кіравання абласных і Мінскага гарадскога выканаўчых камітэтаў |
| 2.3111 | Іншыя пазабюджэтныя і бюджэтныя мэтавыя фонды |

Дадатак 2 да Закона Рэспублікі Беларусь
«Аб бюджэтнай класіфікацыі Рэспублікі Беларусь»

## Класіфікацыя крыніц унутранага фінансавання дэфіцыту рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў Рэспублікі Беларусь

| Код | Назва крыніц |
|---|---|
| 3. | Агульнае фінансаванне |
| 3.1. | Унутранае фінансаванне |
| 3.1.1. | Крыніцы, якія атрымліваюцца ад органаў грашова-крэдытнага рэгулявання |
| 3.1.1.1. | Крэдыты Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь на фінансаванне дэфіцыту рэспубліканскага бюджэту |
| 3.1.1.1.1 | атрыманне кароткатэрміновых крэдытаў |
| 3.1.1.1.2 | пагашэнне асноўнай сумы запазычанасці па кароткатэрміновых крэдытах |
| 3.1.1.1.3 | атрыманне доўгатэрміновых крэдытаў |
| 3.1.1.1.4 | пагашэнне асноўнай сумы запазычанасці па доўгатэрміновых крэдытах |
| 3.1.1.2. | Дзяржаўныя каштоўныя паперы, набытыя Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь непасрэдна ва Урада Рэспублікі Беларусь |
| 3.1.1.2.1 | прыцягненне сродкаў |
| 3.1.1.2.2 | пагашэнне асноўнай сумы запазычанасці |
| 3.1.1.3. | Змяненне астаткаў сродкаў бюджэту на рахунку Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь (у рублях) |
| 3.1.1.3.1 | астаткі на пачатак справаздачнага перыяду |
| 3.1.1.3.2 | астаткі на канец справаздачнага перыяду |
| 3.1.2. | Крыніцы, якія атрымліваюцца ад камерцыйных банкаў і іншых юрыдычных і фізічных асоб |
| 3.1.2.1 | Дзяржаўныя кароткатэрміновыя аблігацыі |
| 3.1.2.1.1 | прыцягненне сродкаў |
| 3.1.2.1.2 | пагашэнне асноўнай сумы запазычанасці |
| 3.1.2.2. | Дзяржаўныя доўгатэрміновыя аблігацыі |
| 3.1.2.2.1 | прыцягненне сродкаў |
| 3.1.2.2.2 | пагашэнне асноўнай сумы запазычанасці |
| 3.1.2.3. | Казначэйскія вэксалі |
| 3.1.2.3.1 | прыцягненне сродкаў |
| 3.1.2.3.2 | пагашэнне асноўнай сумы запазычанасці |
| 3.1.2.4. | Іншыя дзяржаўныя каштоўныя паперы |
| 3.1.2.4.1 | прыцягненне сродкаў |
| 3.1.2.4.2 | пагашэнне асноўнай сумы запазычанасці |
| 3.1.2.5. | Змяненне астаткаў сродкаў бюджэту на рахунках камерцыйных банкаў (у рублях) |
| 3.1.2.5.1 | астаткі на пачатак справаздачнага перыяду |
| 3.1.2.5.2 | астаткі на канец справаздачнага перыяду |
| 3.1.3. | Крыніцы, якія атрымліваюцца з іншых сектараў дзяржаўнага кіравання |
| 3.1.3.1. | Бюджэтныя пазыкі, атрыманыя ад дзяржаўных пазабюджэтных фондаў |
| 3.1.3.1.1 | атрыманне бюджэтных пазык з дзяржаўных пазабюджэтных фондаў |
| 3.1.3.1.2 | пагашэнне асноўнай сумы запазычанасці |
| 3.1.3.2. | Бюджэтныя пазыкі, атрыманыя ад бюджэтаў іншых узроўняў |
| 3.1.3.2.1 | атрыманне бюджэтных пазык з бюджэтаў іншых узроўняў |
| 3.1.3.2.2 | пагашэнне асноўнай сумы запазычанасці |
| 3.1.4. | Іншыя крыніцы ўнутранага фінансавання |
| 3.1.4.1 | атрыманне пазык, крыдытаў |
| 3.1.4.2. | пагашэнне асноўнай сумы запазычанасці |
| 3.1.5. | Аперацыі па сродках у замежнай валюце |
| 3.1.5.1. | Розніца, якая ўтварылася пры змяненні курса замежнай валюты (курсавая розніца) |
| 3.1.5.2. | Канвертацыя замежнай валюты (купля-продаж) |

Дадатак 3 да Закона Рэспублікі Беларусь
«Аб бюджэтнай класіфікацыі Рэспублікі Беларусь»

## Класіфікацыя крыніц знешняга фінансавання дэфіцыту рэспубліканскага бюджэту Рэспублікі Беларусь

| Код | Назва крыніц |
|---|---|
| 3.2. | Знешняе фінансаванне |
| 3.2.1. | Чыстыя крэдыты міжнародных фінансавых арганізацый |
| 3.2.1.1 | выкарыстанне крэдытаў |
| 3.2.1.2 | пагашэнне асноўнай сумы пазыкі |
| 3.2.2. | Крэдыты ўрадаў замежных дзяржаў |
| 3.2.2.1 | выкарыстанне крэдытаў |
| 3.2.2.2 | пагашэнне асноўнай сумы доўгу |
| 3.2.3. | Дзяржаўныя каштоўныя паперы Рэспублікі Беларусь, выпушчаныя на знешніх фінансавых рынках |
| 3.2.3.1 | прыцягненне сродкаў |
| 3.2.3.2 | пагашэнне асноўнай сумы доўгу |
| 3.2.4. | Іншыя крыніцы знешняга фінансавання |
| 3.2.4.1 | атрыманыя |
| 3.2.4.2 | пагашаныя |
| 3.2.5. | Змяненне астаткаў сродкаў рэспубліканскага бюджэту на рыхунках у банках у замежнай валюце |
| 3.2.5.1 | астаткі на пачатак справаздачнага перыяду |
| 3.2.5.2 | астаткі на канец справаздачнага перыяду |

# А З ПРАБЛЕМАМІ МОЛАДЗЬ РАЗБЯРЭЦЦА САМА

***Магчыма, што на базе ААН у хуткім часе будзе створана новая арганізацыя — Міжнародная асамблея дзяцей і моладзі.***

Ідэя гэтага ўзнікла сёлета ў Нью-Йорку, на маладзёжным форуме, прымеркаваным да Гульняў добрай волі. Сярод яго ўдзельнікаў (юнакоў і дзяўчат з 36 краін свету) быў прадстаўнік і нашай дзяржавы — студэнт II курса БДПА Сяргей Бальшакоў, дэлегіраваны на форум беларускім прадстаўніцтвам Дзіцячага фонду ААН (ЮНІСЭФ).

З Усходняй Еўропы на сустрэчу былі запрошаны толькі тры дзяржавы. Тым больш прыемна, што ў іх састаў, акрамя Румыніі і Украіны, увайшла Беларусь.

Маладыя людзі абмяркоўвалі не толькі ідэю стварэння новай арганізацыі.

Сам Сяргей расказвае, што яны разгледзелі 14 асноўных праблем: забруджванне навакольнага асяроддзя, СНІД, адукацыя, насілле, наркатычная і алкагольная залежнасць, правы дзяцей, здароўе, раўнапраўе дзяўчат, дзіцячая праца, расізм, беднасць, дзеці-сіроты, дзеці-інваліды і захаванне міру.

— Паколькі я найбольш дасведчаны ў праблеме СНІДу — займаўся гэтым раней — то ўвайшоў у састаў «СНІДаўскай» групоўкі, разам з аўстралійскай дзяўчынай і хлопцам з Афрыкі. Шмат на чым давялося засяродзіць увагу: на адукаванасці насельніцтва, псіхалагічных бар'ерах ВІЧ-інфіцыраваных і іх блізкіх. Сышліся на думцы, што, каб прыпыніць распаўсюджванне ВІЧ сярод наркаманаў, неабходна ўводзіць для іх бясплатны абмен выкарыстаных шпрыцаў на новыя. Дарэчы, такая практыка ўжо існуе ў Светлагорску.

Нашы праблемы і шэраг іншых былі выказаны перад работнікамі ААН, журналістамі і прадстаўнікамі нацыянальных місій.

Пагадзіцеся, прыемна бачыць, што да цябе ставяцца з увагай. Думаю, у Нью-Йорку гэта адчулі ўсе мае равеснікі. Асабліва ў той момант, калі размаўлялі з віцэ-прэзідэнтам ЗША Альбертам Горам — ён асабіста падыходзіў да кожнага, знаёміўся, паціскаў руку.

**Валерыя АЎСЯНІК.**





*Аляксандр СЫЧОЎ:*

# «ГЛАБАЛІЗАЦЫЯ СУСВЕТНАЙ ЭКАНОМІКІ РАЗАМ З ПОСПЕХАМІ НАРАДЗІЛА І БЕЗЛІЧ ПРАБЛЕМ»

***Інтэрв'ю пастаяннага прадстаўніка Рэспублікі Беларусь пры ААН А. М. СЫЧОВА карэспандэнту «Звязды»***

**— Аляксандр Мікалаевіч, 53-я сесія Генеральнай Асамблеі ААН адкрыецца 9 верасня. Папярэднія сесіі Генасамблеі звычайна пачыналіся ў трэці аўторак верасня. Чым выклікана гэта змяненне?**

— Яно абумоўліваецца неабходнасцю адвесці больш часу для работы Генеральнага камітэта, які традыцыйна пачынае свае пасяджэнні непасрэдна пасля адкрыцця сесіі і прадстаўляе свой даклад Генеральнай Асамблеі да пачатку агульнапалітычнай дыскусіі. Як паказала практыка апошніх гадоў, Генеральнаму камітэту, які займаецца разглядам мэтазгоднасці ўключэння таго ці іншага пытання ў парадак дня сесіі і размеркаваннем пунктаў парадку дня паміж пленарнымі пасяджэннямі і галоўнымі камітэтамі, недастаткова аднаго тыдня для якаснага завяршэння сваёй работы. Хачу адзначыць, што папярэдні парадак дня гэтай сесіі Генасамблеі ўключае больш як 160 пытанняў. Адпаведна, пачынаючы з 53-й сесіі Генеральнай Асамблеі, гэтаму камітэту даецца два поўныя тыдні для падрыхтоўкі свайго даклада.

Зменена таксама працягласць агульнапалітычнай дыскусіі, якая не будзе перавышаць двух тыдняў. Раней агульныя спрэчкі праходзілі на працягу трох тыдняў. У гэтым годзе агульнапалітычная дыскусія пачнецца 21 верасня і завершыцца 2 кастрычніка.

**— У чым асаблівасці 53-й сесіі Генасамблеі?**

— Разнастайныя наступствы заканчэння «халоднай вайны» працягваюць аказваць значны ўплыў на сітуацыю ў розных рэгіёнах свету. Міжнароднае супольніцтва дагэтуль не можа пераадолець негатыўныя вынікі краху двухполюснай сістэмы. Сведчаннем таму з'яўляюцца міжэтнічныя канфлікты ў былой Югаславіі, шэрагу краін СНД, Азіі і Афрыкі.

Глабалізацыя сусветнай эканомікі і лібералізацыя сусветнага гандлю паклалі пачатак эканамічнаму росту, але разам з тым нарадзілі і безліч праблем, у тым ліку нестабільнасць і крызіс на шэрагу фінансавых рынкаў. Непакоіць чалавецтва і абвастрэнне праблем арганізаванай злачыннасці, распаўсюджванне наркотыкаў і тэрарызму.

Змяненні, якія адбываюцца, патрабуюць умацавання сістэмы ААН у якасці унікальнага шматбаковага механізма ўзгодненых дзеянняў міжнароднага супольніцтва, і, адпаведна, вышэйпералічаныя праблемы знайшлі сваё адлюстраванне ў папярэднім парадку дня 53-й сесіі Генасамблеі.

**— Якія задачы давядзецца вырашаць дэлегацыі Рэспублікі Беларусь у ходзе гэтай сесіі Генасамблеі?**

— Сярод практычных задач і прыярытэтных пытанняў хацелася б вылучыць выкарыстанне назапашанага вопыту і патэнцыялу ААН для вырашэння задач сацыяльна-эканамічных і дэмакратычных пераўтварэнняў у Беларусі, далейшае прасоўванне ідэі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі аб стварэнні бяз'ядзернай прасторы ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе, адлюстраванне ў рэзалюцыях Генасамблеі адэкватнага ўкладу Беларусі ў працэсы ядзернага і звычайнага раззбраення, далейшую мабілізацыю намаганняў міжнароднага супольніцтва па мінімізацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС і інш.

**— Што робіцца ААН па святкаванню 50-годдзя Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека?**

— Практычна ўсе арганізацыі сістэмы ААН запланавалі мерапрыемствы, якія адлюстроўваюць ролю праваабарончай праблематыкі ва ўсіх аспектах жыцця грамадства і, адпаведна, на ўсіх напрамках дзейнасці Арганізацыі.

Дэлегацыя Беларусі на розных форумах ААН неаднаразова заяўляла аб прыхільнасці нашай краіны духу і літары Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і венскіх дакументаў, падмацоўваючы гэта канкрэтнымі фактамі. Мы зыходзім з узаемазалежнасці паміж дэмакратыяй, развіццём і павагай да правоў чалавека. Беларусь падтрымлівае комплексны і глабальны падыход да пытанняў правоў чалавека, у рамках якога ўсе правы — грамадзянскія, культурныя, эканамічныя, палітычныя і сацыяльныя, — з'яўляюцца раўназначнымі, узаемазвязанымі і ўзаемадапаўняльнымі. Наша краіна таксама выступае супраць двайных стандартаў пры разглядзе і ацэнцы сітуацыі ў галіне правоў чалавека.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

*ДЗЯРЖАЎТАІНСПЕКЦЫЯ ПАВЕДАМЛЯЕ*

# КУПІЦЬ АЎТАМАБІЛЬ — ГЭТА ЯШЧЭ НЕ ЎСЁ...

***Гэтымі днямі ў Мінску супрацоўнікамі Дзяржаўтаінспекцыі праводзіцца аперацыя «УВАГА — ДЗЕЦІ ІДУЦЬ У ШКОЛУ», якая пачалася 25 жніўня і будзе доўжыцца да 10 верасня. Паралельна з ёю, але ўжо ў рамках рэспублікі (з 1 па 30 верасня) пад патранажам ДАІ праходзіць яшчэ адно мерапрыемства: «ДАРОГАМ — БЯСПЕКУ, ПАРАДАК І КУЛЬТУРУ».***

Няцяжка здагадацца, што ўсе гэтыя падкантрольныя даішнікам месячнікі і паўмесячнікі праводзяцца не дзеля птушачкі, а з мэтай прымусіць вадзіцеляў і пешаходаў паважаць Правілы дарожнага руху: не садзіцца за руль «пад градусам», не ліхачыць, прытрымлівацца дарожных знакаў і разметкі. Факты сведчаць: з пачатку года на дарогах рэспублікі было ўчынена звыш 4 тысяч ДТЗ, у якіх загінула амаль 1000 чалавек. У чатыры разы болей пацярпелых з траўмамі рознай ступені цяжкасці, сярод якіх нямала дзяцей.

Паралельна з гэтай бядой з'явілася яшчэ адна. Апошнім часам няўмольна расце колькасць завезеных на тэрыторыю Беларусі аўтатранспартных сродкаў па падробленых дакументах, з перабітымі нумарамі кузава і рамы.

Пачасціліся і ўгоны аўто. Статыстыка паказвае, што толькі ў Мінску за 8 месяцаў сёлетняга года зарэгістраваны 121 аўтаўгон. За гэты ж перыяд часу сталічныя інспектары ДАІ выявілі 51 падроблены тэхпашпарт, 1 фальшывае пасведчанне мытні. Аж 218 машын аказаліся са зменанымі нумарамі рухавікоў і 353 — з «перабітымі» нумарамі кузава. Як вынік, уладальнікам 236 аўтамабіляў адмоўлена ў рэгістрацыі.

Як правіла, лёс такіх машын пасля вынясення суровага прыгавору сумны. Іх уладальнікам трэба дабівацца дазволу на мытні, каб вывезці аўтамабіль туды, дзе ён быў куплены, і паспрабаваць знайсці гаспадара ці фірму, з якімі афармлялася здзелка па куплі-продажу тавару, каб вярнуць грошы. У іншым выпадку «жалезны конь» можа быць на доўгачасовым захоўванні ў гаражы яго ўладальніка. Праўда, ездзіць на машыне не рэкамендуецца.

Ёсць яшчэ варыянт, калі вы купілі па падробленых дакументах, напрыклад, па даверанасці, угнаны аўтамабіль. А ў міліцыі гэта высветлілася, і да таго ж знайшоўся сапраўдны гаспадар транспартнай адзінкі. Тады, хутчэй за ўсё, з пакупкай прыйдзецца развітацца без усякай грашовай кампенсацыі.

Часцей за ўсё ў сеткі аферыстаў на мінскім аўтамабільным рынку, што ў Малінаўцы, трапляюць расіяне. Вось некалькі свежых прыкладаў.

28 жніўня 1998 года грамадзянін Санкт-Пецярбурга К. звярнуўся ў МРЭА г. Мінска з мэтай зняць з уліку «Фольксваген-Транспарцёр», за які ён уплаціў 10 тысяч «зялёных». Цікава, што прадаўцы самі загналі аўтамабіль на берагі Нявы і ўручылі яго новаспечанаму гаспадару разам з падробленымі дакументамі. Да высвятлення сталічнымі работнікамі ДАІ ўсіх абставінаў з'яўлення гэтай машыны гаспадар на яе можа толькі пазіраць збоку.

Крыху раней «пракалоўся» на мінскім аўтарынку яшчэ адзін пецярбуржац. У быццам бы мінчаніна ён купіў «Форд-Сіеру», на якой красаваліся дзяржаўныя нумарныя знакі 81-81 МЕ, і тэхпашпарт як быццам быў у парадку. Калі спатрэбілася машыну зняць з уліку, то высветлілася, што пад такім дзяржнумарам зарэгістраваны зусім іншы аўтамабіль, а прыкладзены тэхпашпарт — проста падробка. А ўсё пачыналася з тэлефоннага званка па звычайнай аб'яве ў газеце, што прадаецца аўтамабіль.

Трапляюцца на вудачку да мясцовых аўтадзялкоў і землякі-беларусы. Жыхар Мінска Х. без задняй думкі задумаў паставіць на ўлік у ДАІ куплены ў Літве аўтамабіль «Фольксваген-Джэта». Пры аглядзе машыны высветлілася, што нумар рухавіка на ёй зменены, аб чым сведчыць даведка эксперта.

Безумоўна, кожны такі выпадак — гэта трагедыя для чалавека, бо сёння сабраць грошы на куплю ўласнага аўто далёка не проста.

Як правіла, «праколваюцца» ў аўтабізнесе тыя, хто хоча як мага танней набыць аўто, ці давярае афармленне дакументаў зусім незнаёмым асобам.

Работнікі дзяржаўтаінспекцыі рэкамендуюць больш сур'ёзна ставіцца да працэдуры куплі-продажу аўто. Тады, відаць, і «спраў» па сумніўных машынах будзе менш. Пакуль жа штомесяц толькі ў сталічным міжраённым рэгістрацыйна-экзаменацыйным аддзеле іх набіраецца да 20. Прычым стабільнасць захоўваецца.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## Толькі факт

- Калі ў Беларусі ў сярэдзіне 70-х гадоў здабывалася амаль **8 мільёнаў тон нафты** ў год, то зараз — 1,8 мільёна.
- Амаль **паўмільярда людзей на Зямлі** сутыкаюцца з праблемай нястачы прэснай вады. Да 2025 года іх колькасць можа ўзрасці да 2,8 мільярда чалавек, што складзе 35 працэнтаў усяго насельніцтва планеты, колькасць якога да гэтага часу дасягне 8 мільярдаў чалавек.
- У І паўгоддзі ў рэспубліцы выдадзена **425 найменняў беларускамоўных** кніг; 168 з іх убачылі свет дзякуючы дзяржаўным выдавецтвам.
- Летась у рэспубліцы было рэалізавана 9315 тысяч дэкалітраў **віннай прадукцыі.**
- **Заказнікі** сёння займаюць у Беларусі 657 тысяч гектараў зямлі, або 3 працэнты тэрыторыі рэспублікі.

# ЗНАКАМІТЫ РУСКІ МАСТАК МІКАЛАЙ НЕЎРАЎ ДАЖЫВАЎ СВОЙ ВЕК У АДЗІНОЦЕ, МАЛЮЮЧЫ КРУГЛЯНСКІХ СЯЛЯН

***Сёння ў Магілёве ўрачыста адкрыецца міжнародны пленэр па жывапісу памяці вядомага рускага мастака-перадзвіжніка Мікалая Неўрава, які апошнія гады свайго жыцця правёў у маёнтку вёскі Лыскаўшчына ў цяперашнім Круглянскім раёне.***

ІМЯ ГЭТАГА МАСТАКА не так шырока вядома сярод нашых сучасьнікаў як, напрыклад, Рэпіна ці Шышкіна. Аднак амаль кожны з нас прыгадае рэпрадукцыі карцін Мікалая Неўрава на сацыяльныя тэмы са школьных падручнікаў.

Калі коратка сказаць пра біяграфію Неўрава, то ён быў карэнным масквічом, нарадзіўся ў купецкай сям'і, вучыўся ў Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і дойлідства, а потым і выкладаў у гэтай навучальнай установе. Неўрава называлі геніяльным мастаком, і пра прызнанне ягонай творчасці і мастацкага таленту сведчыць той факт, што ў 1898 годзе пасля смерці Траццякова яму прапанавалі заняць пасаду дырэктара галерэі, але 68-гадовы мастак адмовіўся, спаслаўшыся на старасць і хваробы.

Апошнія гады свайго жыцця Мікалай Неўраў жыў на Круглянншчыне, але лёс яго і да гэтага часу застаецца для нас загадкавым: даныя біёграфаў мастака і цяперашніх даследчыкаў ягонай творчасці нават у колькасці гадоў, пражытых у апошнім прытулку — сельскім маёнтку ў вёсцы Лыскаўшчына, — не супадаюць, не кажучы ўжо пра прычыны тых ці іншых учынкаў, падзей. Толькі ў адным меркаванні сыходзяцца знаўцы жыцця Неўрава: стары скончыў жыццё самагубствам ад тугі і адзіноты...

ШЧЫРА КАЖУЧЫ, паглядзеўшы на хату, дзе пражыў свае апошнія гады вядомы мастак-перадзвіжнік, захацелася таксама атрымаць падобны «апошні прытулак». Маляўнічы пагорак ля маленькай рачулкі, назву якой ніхто не здолеў успомніць, цяністыя алеі векавых ліп — тым дрэвам, якія растуць побач з хатай, напэўна, гадоў дзвесце. Цішыня і спакой...



Аўтапартрэт Мікалая Неўрава.

Напярэдадні пленэра на Круглянншчыне самой хатай заняліся раённыя ўлады. Пчаляра Анатоля Станіслававіча Хаўратовіча пасялілі ў адзін пакой, а ў астатніх ідзе рамонт: да прыезду гасцей тут зробяць камін, прывязуць мэблю. Былы гаспадар хаты скардзіцца, што яго, напэўна, і зусім адсюль высяляць. Падставы, сапраўды, для гэтага ёсць: плануецца, што ў будучым у Лыскаўшчыне будзе дом-музей Мікалая Неўрава.

Сама хата вельмі старая, але вельмі моцная. Рабочыя, якія займаліся рамонтам, расказалі, што будавалася яна не менш як 150—200 гадоў таму з хвойнага лесу — сасны і елкі. Праўда, Станіслававіч аўтарытэтна дадаў, што, па ягонаму асабістаму меркаванню, дом гэты будаваўся ў той час, калі на Русі яшчэ не было пілы — ён зроблены толькі сякерай, а значыць гэтаму збудаванню амаль тры стагоддзі. Так ці інакш, а ўсе прысутныя пры нашай размове спецыялісты пацвердзілі: калі ашаляваць хату, то прастаіць яна яшчэ некалькі соцень гадоў без капітальнага рамонту!



Маёнтак у вёсцы Лыскаўшчына.

Таму і не выпадкова, што за гэты невялікі, але маляўнічы і дыхтоўны маёнтак ішла жорсткая барацьба, якая, у сваю чаргу, адыграла трагічную ролю ў лёсе мастака Мікалая Неўрава.

ВЕРСІЙ НАКОНТ УЛАДАЛЬНІКАЎ ракавога маёнтка існуе сёння некалькі. Першая з іх выкладзена ў «Кнізе памяці» Круглянскага раёна: там распавядаецца, што гэты куток Лыскаўшчыны належаў генералу Чарняеву — ураджэнцу гэтых мясцін, легендарнаму чалавеку, які насуперак царскаму ўказу адправіўся ў Сербію ваяваць з туркамі і стаў нацыянальным героем гэтай краіны. Ёсць меркаванне, што Чарняеў сябраваў з мастаком, апекаваўся над ім, а потым падарыў яму дом. Пасля смерці генерала ягоная жонка звярнулася ў суд з іскам аб вяртанні маёмасці. Суд вырашыў справу на карысць удавы, і за некалькі гадзін да прыбыцця ў маёнтак судовых выканаўцаў стары мастак застрэліўся.

Іншую гісторыю нам распавяла Зінаіда Яфімаўна Кунец, мясцовая знаўца жыцця і дзейнасці Мікалая Неўрава.

Маёнтак, як і ўсё ў акрузе, належаў пану Лапандзіну, які ён перадаў Неўраву да канца жыцця. Гавораць, што пан і мастак не вельмі ладзілі паміж сабой, і калі да Лапандзіна прыйшоў ліст ад сына з Яраслаўля з просьбай знайсці жыллё, каб прыехаць усёй сям'ёй летам на дачу, уладальнік хутка вырашыў выселіць мастака з маёнтка, прадаставіўшы яму іншую кватэру ў суседняй вёсцы Грыбіна. Неўраў моцна пакрыўдзіўся і ўсё паўтараў — так успамінае дачка ягонай кухаркі: «Стары чорт, нікому я не патрэбен... Толькі паміраць...»

У прынцыпе, канец у гэтых гісторый таксама цалкам аднолькавы...

Мясцовыя прыгожыя пейзажы душу Неўрава як мастака не кранал. На першым этапе сваёй кар'еры ён маляваў партрэты ўсёй маскоўскай знаці, а потым пісаў жанравыя карціны з жыцця мяшчан, часта — сатырычнай накіраванасці, і, вядома, гістарычныя палотны, якія сталі вельмі вядомымі. У якасці натуршчыкаў ён запрашаў да сябе сялян Лыскаўшчыны і навакольных вёсак — то па парадзе знаёмых, то самастойна, калі ўбачыць прахожага чалавека, які падыходзіць яму па вобразу. Па ўспамінах, ён плаціў за гадзіну пазіравання 40 капеек, але для жывасці рухаў настойліва прапаноўваў сваім персанажам прымаць сто грамаў спірту і кубак моцнага чаю.

Гавораць, што Неўраў быў вельмі педантычным чалавекам. Яму было за 70 гадоў, ён жыў у глухой правінцыі, але ўсё роўна выконваў усе правілы этыкету. Ён кожную раніцу апранаў чыстую бялізну, еў і спаў ён заўсёды ў строга вызначаныя для гэтага часы, рабіў заўвагі па кожнаму няправільна пакладзенаму на стол відэльцу і патрабаваў, каб у хаце было не менш 16 градусаў цяпла.

СЯЛЯНЕ, МЯРКУЮЧЫ ПА ЎСПАМІНАХ, вельмі любілі мастака, хаця, відаць, і лічылі яго дзіваком. Як успамінаў у гутарцы з Зінаідай Яфімаўнай Кунец адзін са старэйшых жыхароў Лыскаўшчыны (на пачатку 60-х гадоў) Павел Ульянавіч Дзямбіцкі, Мікалай Васільевіч быў вельмі добрым чалавекам і кожную суботу даваў грошы беднякам, але таксама строга вызначаную суму, не больш як 26 капеек.

Людзі з акругі ў дзень пахавання Мікалая Васільевіча Неўрава пакідалі работы і пайшлі развітацца з ім. Пахавалі яго за могілкамі, як і ўсіх, хто накладвае на сябе рукі. Гавораць, што потым на яго перапахаванне даў грошы Рэпін, але ніякіх доказаў візітаў знакамітых мастакоў — сяброў Неўрава як пры ягоным жыцці, так і пасля смерці, не захавалася.

ШТО СТАЛАСЯ З МАЁМАСЦЮ Мікалая Неўрава, ніхто не ведае. Ягоных карцін-арыгіналаў на Круглянншчыне няма. Адзіная і апошняя, якую бачылі людзі сталага ўзросту, але не памятаюць, што ўвогуле на ёй было намалявана, належала жыхару Лыскаўшчыны Антону Варвановічу. Стары распавядаў, што яе падарыў ягонаму бацьку сам Неўраў, таму што той працаваў у мастака і добра з усім спраўляўся. Прыкладна ў 1948 годзе да Антона прыязджалі людзі са сталічнага мастацкага музея, папрасілі ім аддаць карціну, а калі трэба людзям — дык гаспадар каштоўнасці з ёй расстаўся лёгка.

У Круглянскім краязнаўчым музеі ёсць толькі рэпрадукцыі і адна копія. Ёсць некалькі чорна-белых рэпрадукцый, зробленых па заказу ў Траццякоўскай галерэі, у Грыбінскай сельскай бібліятэцы. Але і без арыгінала кожны школяр у акрузе Лыскаўшчыны і Грыбіна ведае, хто такі Мікалай Васільевіч Неўраў, дзякуючы намаганням настаўнікаў і бібліятэкаркі Зінаіды Яфімаўны Кунец, якія праводзяць урокі пра знакамітага мастака, чыё імя звязана, няхай і трагічным чынам таксама, з гэтымі мясцінамі.

Да мастацкага пленэра памяці Мікалая Неўрава прыведзена ў парадак і яго магіла, якая цяпер знаходзіцца на тэрыторыі маёнтка, у парку. Паставілі там, сярод ліп, лаўку і альтанку. На хату павесілі мемарыяльную дошку. Заўтра ў Лыскаўшчыну прыедуць мастакі і будуць маляваць цяперашніх тутэйшых сялян і тыя прыгожыя мясціны, якія калісьці не жадаў адлюстроўваць на сваіх палотнах знакаміты мастак-перадзвіжнік, але настолькі любіў гэты кут, што застаўся тут назаўсёды...

**Ілона ІВАНОВА.**
**Фота Ірыны САВОСІНАЙ.**
*Круглянскі раён.*



Карціна М. Неўрава «Сямейныя разлікі».

# СЁННЯ — МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ САЛІДАРНАСЦІ ЖУРНАЛІСТАЎ

**Журналісты свету адзначаюць яго ў 41-ы раз. Свята салідарнасці работнікаў мас-медыя ўстаноўлена ў маі 1958 г. рашэннем кагрэса Міжнароднай арганізацыі журналістаў (МАЖ) у памяць аб чэшскім журналісце-антыфашысце Юліусе Фучыку, закатаваным гітлераўцамі ў гэты дзень у 1943 г.**

Паводле даных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, век журналіста кароткі — у сярэднім 40 гадоў. Па працягласці жыцця яны «апярэдзілі» і шахцёраў, і паліцэйскіх, ды і людзей іншых прафесій. І ў рэйтынгу ЮНЕСКО журналісты па найменшай працягласці жыцця ідуць другімі, следам за шахцёрамі.

А вядомы венгерскі медык К. Гамбаш, зыходзячы з больш як 30-гадовых назіранняў за здароўем прадстаўнікоў «чацвёртай» улады, сцвярджае, што прафесія журналіста — адна з самых небяспечных для здароўя: толькі 30 працэнтаў іх дажываюць да пенсійнага ўзросту.

Галоўныя прычыны хуткага зношвання арганізма работнікаў прэсы — напружаная праца, пастаянныя стрэсы.

**Падрыхтаваў Рыгор ГАНЖУРАЎ.**

***ПРЭМ'ЕРА ПЕСНІ***

# НА НЯМІЗЕ

На сваёй сольнай вечарыне, якая адбылася сёлета падчас Свята беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне, Якаў Навуменка прапанаваў рэпертуар з разнастайных твораў. Прагучала і новая песня «На Нямізе», напісаная ім на верш Уладзіміра Мазго. Гэты паэтычны твор ужо быў пакладзены на музыку Зміцерам Яўтуховічам яшчэ ў 1992 годзе, але не выконваўся. Якаў вырашыў у сваім стылі пакласці на музыку тэкст.

Цёпла ўспрынялі на канцэрце песню «На Нямізе». Сустрэча закаханых успрымаецца алегарычна. Знакамітую ў гісторыі раку, на якой раскінуўся Мінск, з цягам часу закавалі, прымусілі бегчы ў падзямеллі. Мо так станецца і з каханнем, што паяднала дваіх?! Мо толькі памяць будзе жывіць яго? Мелодыя і тэкст песні абуджаюць прамяністае пачуццё, доўжаць яго імгненні...

**Міхась ШАВЫРКІН.**

♩=80

Dm Gm
На Ня- мі- зе, на Ня- мі- зе Мы су- стрэ- лі- ся з та- бой. Ні-бы
C Dm
ў кні- зе, ні- бы ў кні- зе Пра- чы- таў я сму- так твой. Мабыць,
B♭ F
лё- гка- я су- кен- ка Аб- ла- чы- нка- ю бы-ла: Як ня-
C Gm B♭ Dm
бе- сна- я па- не- нка Над зя-млё- ю ты плы-ла.

На Нямізе, на Нямізе
Мы сустрэліся з табой.
Нібы ў кнізе, нібы ў кнізе
Прачытаў я смутак твой.
Мабыць, лёгкая сукенка
Аблачынкаю была:
Як нябесная паненка
Над зямлёю ты плыла.
**ПРЫПЕЎ:**
А Няміга, а Няміга
Абудзіла берагі,
Калі ціха ты сказала,
Ты сказала: «Дарагі!»
Ты шаптала ціха словы,
Ты шаптала: «Я — твая...»,
Дзе зліліся, як дзве кроплі, ты і я.

Чараўніца, чараўніца —
Тая ноч ля камяніц.
Што дазволіць далучыцца
Да стагодніх таямніц.
Ля Траецкага прадмесця
Дапаможа зорны міг
Нам пранесці, нам пранесці
Таямніцу удваіх.
**ПРЫПЕЎ.**
Засынаюць, засынаюць
І двары, і ліхтары.
Заклінаю, заклінаю:
Спадзяванне падары!
Выпадковая сустрэча,
Нібы знічка, праімчыць.
Нават вечнасць, нават вечнасць
Нас не зможа разлучыць.
**ПРЫПЕЎ.**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, г. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйнага — 68-27-41, крымінальнай хронікі і фінансавых экспертыз — 32-38-02, эканомікі — 32-31-21, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве —31-13-75; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 80.779. Індэкс 63850.
Зак. № 5333.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12